# Жыве Беларусь!



СБМ

Нясеце, маладыя сакалы, наш беларускі сьцяг. Трымайце яго горда, ня бойцеся бураў, віхураў, вы-ж дзеці працоўнае сям'і. Нясеце на сваіх сьцягох долю сваіх братоў, долю усяго свайго народу. Якімі будзеце вы, такой будзе і нашая будучыня, будучыня усяго Беларускага народу.

Уладыслаў Казлоўскі

*(З арт. «Вітаем нашую моладзь», «Беларуская Газэта» № 46 (164) ад 22. VI. 1943)*

№ 4—5
Кастрычнік
Лістапад
1943

ЧАСАПІС ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ МОЛАДЗІ

ВЫДАВЕЦ: М. ГАНЬКО

# ВОЛАТ

Увесь сьвет ведаў славу волата — гаспадара. Днепр, Дзьвіна, Нёман і Прыпяць насілі дабро ягоных палёў у далёкія краіны. Ягоны войстры меч дасягаў кожнага ворага.

У бесьперарыўным слаўным змаганьні з заўзятымі ворагамі не магла аднак устаяць ягоная чалавечая сіла. Цела ягонае апанавала дрымота.

Заснуў волат...

Ягоны меч абхапіла шматгадовая іржа.

Зарасьлі ліхазельлем нівы і сенажаці. Падуплелі і пахіліліся ад старасьці дубы—сьветкі слаўнае мінуўшчыны.Ператварыліся у руіны старыя замчышчы. Зямля пакрылася крыжамі і курганамі. Волатавых унукаў апанавала ціхая, мляўкая сьпякота. Мячы іхныя паела іржа нявольніцкага пацыфізму...

— Сьпіць слаўны волат! — агаласілі ворагі і хлынулі на ягоную гаспадарку. Атуманілі расьцярушаных волатавых унукаў; зачынілі перад імі дзьверы асьветы, дзяругаю маны закрылі ім вочы.

Страшная цемра пакрыла волатаву бацькаўшчыну.

— Сьпіць!! Вось добра. Ня будзіць, а то — бяда, як прачнецца!—шапталі ворагі, упраўляючыся на чужой гаспадарцы, і нявалілі дзяцей сьпячага волата...

Бачачы гэткую несправядлівасьць абурыліся духі волатавых слаўных прадзедаў.

— Абудзіся! — шапталі яны пошумам непраходных пушчаў.

— Уставай! Твае дзеці у няволі! — будзілі журчаньнем быстрых рэчак, што нясьлі у далёкае мора крывавы пот працоўнага народу.

— Прачніся! — Заклікалі шопатам ніваў, што з подзьмухам ветру апускалі каласістыя галоўкі, сумуючы над ńядоляю працоўных.

— Уставай! Ачышчай пакрыты шматгодняй іржою слаўны свой меч!—крычэлі громам праўды і сьвяцілі у вочы маланкаю справядлівасьці.

— Зварушыся, слаўны волат! — будзілі сумнымі песьнямі пакутнага народу і плачам галодных.

І зварухнуўся волат...

Усьцешыліся духі ягоных прадзедаў. Сагналі яны усе воды, што паўсталі із сьлёзаў паднявольнага народу і хлюснулі у вочы волату.

І ён прачнуўся.

Ажыўляючым зрокам агляну́ў сваю гаспадарку. Ягоныя унукі нясьлі нявольніцкую лямку, узбагачаючы прагавітых ворагаў.

— Што-ж вы зрабілі з маіх дзяцей!? Якім правам забралі маю гаспадарку!?—крыкнуў волат на ворагаў і сьціснуў магутнаю рукою свой войстры меч.

— Мы іх кормім сваёй уласнай стравай! Мы ім асьвячаем іхную ноч лучынай. Мы іх накіроўваем на наш уласны шлях! — запішчэлі ворагі, са страхам глянуўшы на паўсталага волата.

А ён з агідай ад іх адвярнуўся. Глянуў бадзёра на сваіх унукаў і адраджаючым іхныя душы голасам заклікаў:

— О, дзеці родныя! Як-жа-ж вы пазваляеце на гэткую паняверку! Вы, насьледнікі мае славы, дзе падзелася вашая рэзвасьць баёвая? Чаму мячы вашыя іржа праядае?

Схамянецеся!

Але людзі яго не разумелі, іх апанавала лянівамляўкая дрымота, зашчэпленая бацылам пацыфізму ваяўнічымі ворагамі.

— Мір! Мір! Мы за мір! — крычэлі яны, пахіліўшы нявольніцкія сьпіны.

З агідай паглядзеў волат на ворагаў, што так зманліва акалечылі душы ягоных унукаў, што парабілі іх змадзеўшымі мірнымі нявольнікамі. Поўны жыцьцёвае сілы, магутнаю рукой ён падняў свой слаўны меч і парываў мляўкія, ціхія, нявольніцкія душы пераконваючымі словамі:

— О, людзі-нявольнікі! Мір у гэткіх абставінах—вечная цемра, вечная няволя!

[illegible]

І задумаліся нявольнікі. Загаманілі між сабой.

Тыя, што цярпелі голад і холад, босыя, абдзёртыя, пагарджаныя—крычэлі:

— Зямля палітая потам—нашая зямля!

Мы — гаспадары на ёй!

У паход зьбірацца!

Мір — нашая згуба!

Другія, што меней адчувалі няволю, будучы ажырэўшымі ад варожае стравы, што выгадна грэліся на цёплых печах, сытыя, адзетыя — не хацелі зьмены: баяліся змаганьня, каб ня страціць свайго выгаднага, хаця і нявольніцкага, жыцьця. Яны, сагнуўшы свае тлустыя каркі, піскліва галасілі:

— Мы за мір! Хаця таксама хочам быць вольнымі, але толькі праз мір. Самыя ворагі адумаюцца і дадуць нам волю!

— Ажырэлае племя! — казаў абураны волат: дзе і калі было так, каб хто мірна і ахвотна даў волю сваім нявольнікам? Нявольнік, што ня зьбіраецца у паход за волю, хоча міру — не дастойны быць вольным!

Сказаўшы гэта, волат адвярнуўся ад ажырэлых, апанаваных мляўкім пацыфізмам нявольнікаў і стаў заклікаць тых галодных, абдзёртых, гатовых палажыць жыцьцё за сваю волю:

— У паход зьбірацца, паднявольны, бедны народзе!

Падбадзёраныя, пагарджаныя, худыя нявольнікі крыкнулі у вадзін голас:

— Вядзі нас, волат!

Твой войстры меч працярэбіць парослыя маною сьцежкі; нашыя мазалістыя далоні паднімуць родны сьцяг!

— Больш не засьнём! — магутным голасам сказаў волат і падняў высока свой меч. На гэны меч бадзёра зірнулі бунтарныя вочы паднявольнага народу. Ад гэтага бадзёра - баёвага узгляду з трэскам асыпалася з мяча іржа, што стагодзьдзямі на ім нарастала. І ён заблішчэў, як сонца. Ягоны бліск асьвяціў усю паднявольную краіну, пранікнуў душы і сэрцы пакрыўджаных, уліў ім надзею перамогі.

На бліск гэнага мяча ворагі закрылі далоняю вочы і пачалі зманлівую зьвягу.

Але дарма!

Блішчыць меч у магутнай волатавай руцэ і паказвае ягоным унукам шлях да іхнае перамогі.

**Ул. Казлоўшчык**

(«Новы Шлях», № 6(21) ад 30. X. 1936 г.).

*М. Ганько, шэф-праваднік*

# НАШАЯ МІСІЯ

Кажны чалавек мусіць мець сваю азначаную мэту жыцьця, мусіць мець нейкі ідэал, да якога ён імкнецца усімі сіламі свайго духа і волі. Бязмэтнае жыцьцё — бязрадаснае, нават нявыноснае. У сьветнай літаратуры ёсьць шмат твораў, у якіх нарысаваныя тыпы «дэкадэнтаў» і «нігілістых». Гэтыя тыпы належаць да найбольш нешчасьлівых людзей на сьвеце, яны дужа церпяць і вельмі часта канчаюць сваё жыцьцё, сваё бязмэтнае існаваньне самагубствам. Гэтак здараецца з тым, хто ня ведае, навошта ён атрымаў ад прыроды найвялікшы і найпрыгажэйшы дар — жыцьцё.

Як і паасобная адзінка, мусіць і кажны народ мець азначаную мэту свайго існаваньня, мэту свайго жыцьця. Да таго часу, покуль яго злучае у вадно згуртаваньне толькі адна мова, мінуўшчына, народная культура, тэрыторыя і эканоміка, дык потуль можа быць мова толькі аб этнічнай групе. Праўда, тады гэта этнічная маса мае ужо усе важнейшыя перадумовы, каб аформіцца у нацыю, але гэтае афармленьне наступіць, калі народ будзе ужо сьведамы свае собскае нутраное лучнасьці і свае асобнасьці ад усіх іншых народаў. Каб-жа нацыя была эфэктыўным трывалым палітычным дзейнікам, яна мусіць мець нейкую трывалую мэту палітычнага дзеяньня і імкненьняў, — мусіць імкнуцца зьдзейсьніць сваю гістарычную місію. Яна можа быць палітычнага, культурнага, а то і рэлігійнага характару, — не зьяўляецца самым важным, што за зьмест яе, але ці яна ахоплівае сабой усю істоту народу, ці зьяўляецца яна штодзённым зьместам ягонага жыцьця, думак і чынаў.

Калі мы, беларусы, будзем гаварыць аб нашай гістарычнай місіі, дык можа здарыцца, што нашыя ворагі будуць гіранічна сьмяяцца: «Іхная гістарычная місія! Гэта абсурд! Ня можа быць у іх ніякае місіі, бо няма і ня было Беларускага народу».

Было-б зусім недарэчна уступаць з гэткімі людзьмі у дыскусію і браць паважна іхныя абсурдныя і злосныя напады на беларускую мінуўшчыну і сучасныя жыцьцёвыя патрабаваньні. Аднак мы павінны гэтым пытаньнем заняцца, каб мець свой ясны пагляд у гэтай справе і нутраное пераконаньне, што у нас ёсьць дзеля чаго працаваць і змагацца, што у нас ёсьць мэта нашае нацыянальнае працы, а мэта гэтая вялікая і ганаровая.

Яна паўстане перад намі, калі мы толькі успомнім сабе сваю слаўную мінуўшчыну, нашыя намаганьні з часоў самастойнага нацыянальнага жыцьця.

Тады Беларусь выконвала два вялікія заданьні, якія выпалі ёй на долю, дзякуючы цэнтральнаму палажэньню паміж Усходняй і Заходняй Эўропай. Гэта было культурнае пасярэдніцтва паміж поўначай і паўднём, захадам і усходам, і абарона Заходняй Эўропы ад усходняй азіяцкай навалы, ад Масквы і татараў.

Ужо ад самых даўніх часоў Беларусь была полем абмену культурных уплываў, якія ішлі разам з купцамі і таварамі цераз нашыя водныя шляхі з далёкае Скандынавіі і Нямеччыны, з Арабіі і Арды, а разам з крыжам і Эвангельлем — з заморскае Бізантыі, з Сэрбіі і Баўгарыі. А у той час, калі сумежная з намі Масква тонула яшчэ у цемры няпісьменнасьці, у нас, на Беларусі, красавала прыгожае пісьменства, пашыралася асьвета, разьвівалася правазнаўства і штука друкаваньня кніжак.

Ганарлівыя палякі, якія умеюць сяньня часамі пагардліва назваць нас «мужыкамі» і «хамамі», відаць забыліся, што наш беларускі князь Ягайла прынёс у каралеўскі двор у Кракаве разам з сваёй мовай (шмат сьлядоў яе так і асталося па сяньняшні дзень у польскай літаратурнай мове) беларускае права, прыдворныя звычаі, нават сваіх музыкантаў і мастакоў. Калі яны горда кажуць аб «польскай культурнай місіі на крэсах», дык іхная кароткая памяць забываецца, што якраз Беларусь падаравала ім і Касьцюшку і Сыракомлю, і бесьсьмяротнага Міцкевіча, і Манюшку, і Глінку, і шмат шмат іншых «вялікіх палякаў», без якіх польскія самахвалы не маглі-б задзіраць так высака свой нос.

Калі-ж зьвернемся у другі бок, на усход, дык таксама пераканаемся, што расейцы, якія вельмі ганарацца сваймі «вялікімі», сваім «могучим» і «благозвучным» языком, сваім Пушкінам і Талстым, — некалі далёка аставаліся ад нас і — хоць можа каму з іх і ня зусім міла аб гэтым даведацца — вучыліся ад нас, пазычалі ад нас і нашае права, і царкоўную грамату і красамоўства. Наш Сымон Полацкі быў адным із «просветителей» Масквы у XVII стагодзьдзі, наш Іван Фёдараў пачаў друкаваць кнігі у Маскве (за што яго перасьледваў цёмны маскоўскі натоўп і разьбіў першую друкарню як «д'яблавую кузьню»...), наш Капіевіч-Капіеўскі зрэфармаваў шрыфт і стварыў сяньняшнюю «рускую» кірыліцу. А якая вялікая шкада, што гэткія беларусы, як Глінка ці Дастаеўскі, здабылі славу не для свайго, а для чужога народу, каб даць расейцам магчымасьць мазаліць нам вочы сваймі «вялікімі» і упікаць нас у нашай няздольнасьці, у нашай бязкультурнасьці!...

Гэтак выглядае у запраўднасьці пытаньне нашае культурнае ролі у мінуўшчыне. Калі сяньня Беларускі народ і астаўся далёка ззаду за перадавымі краінамі Заходняй Эўропы, дык толькі дзякуючы цяжкім гістарычным абставінам, даўгой няволі і прыгнёту, дзякуючы подлай нацыянальнай і сацыяльнай

палітыцы гэтых самых «просветителей» і «місіянэраў» з усходу і захаду, а ня нашай няздольнасьці ці прымітыўнасьці. Ужо штодзённае жыцьцё даводзіць нам якраз, што caeteris paribus беларус больш працавіты, інтэлігентны, біялёгічна і сацыяльна вартасны, ягоная індывідуальнасьць ніколі ня згіне у масе расейцаў ці палякаў, а заўсёды выдзяляецца у лепшы бок, не гаворачы ужо аб іншых дадатных бакох ягонае душы і сэрца.

Яшчэ большую ролю, чымся у культурным пасярэдніцтве, адыгрывала Беларусь у мінуўшчыне, як таран, аб які разьбіваліся дзікія хвалі усходняе навалы на Эўропу. Нельга прыпісваць аднаму толькі стратэгічнаму значэньню палажэньня Беларусі перад уваходам у Сярэдня-эўрапэйскую раўніну (Смаленская брама, палескія балоты, вялікія рэкі) тую акалічнасьць, што усе войны, якія адбываліся у гэтай частцы Эўропы, заўсёды-такі канчаліся на Беларусі. Яна мусіла быць зацікаўленай у выніку гэтых войнаў і таму прымаць у іх безпасярэдні удзел. Гэта довад таго, што беларусы былі у свой час палітычна актыўнымі, а калі пазьней гэтую рысу страцілі, дык толькі дзякуючы пэўным гістарычным прычынам, аб якіх ня раз ішла гутарка. Нельга таксама думаць, што толькі адно абароннае палажэньне краю выратавала беларусаў ад татарскага ярма ці маскоўскага падбою і дзякуючы гэтаму дазволіла беларусам захаваць чысьціню свае арыйскае расавасьці. Палесьсе, Прыпяць і Дняпро былі толькі натуральным валам, за якім хаваліся мужныя абаронцы, але з-за якога таксама выходзілі у паход на Кіеў, Чорнае мора і Маскву нашыя ваякі на чале з князямі, гэтманамі і ваяводамі, якія уважалі, што папярэджаньне зьяўляецца найлепшай абаронаю свайго краю.

Даволі будзе прывесьці колькі прыкладаў з нашае гісторыі, каб пераканацца, як запраўды беларусы адбівалі напады з усходу, пры тым у цяжкой няроўнай барацьбе.

З Масквою беларусы сутыкаліся аружна за панаваньне вялікага князя Альгерда, а вынік быў вельмі удалы. Беларускі князь два разы акружыў быў Маскоўскага князя у ягонай сталіцы, так што той мусіў прасіцца і згадзіцца на вельмі выгодныя для Беларусі умовы міру (мяжа па Мажайск і Каломну). Князь Альгерд загадаў прыбіць на знак свае перамогі свой шчыт на варотах Масквы і пагразіў гордаму Маскоўскаму князю: «Княжа вялікі маскоўскі, памятай гэта!»

Гэтак сама удала змагаўся з Масквою вялікі князь Вітаўт, які далучыў да свайго гаспадарства беларускі Смаленск (1405) і іншыя землі, канчаючы гэтым самым зьбіраньне беларускіх земляў.

Калі Масква падужэла і умацавалася, для Беларусі пачаўся шэраг доўгіх і крывавых войнаў з ёю: 1487—1490, 1500, 1507—1537, 1559—1582, 1611—1618, 1655—1667. Гэтыя войны Беларусь вяла, бароначы Эўропу ад маскоўскай інвазіі, стрымліваючы сваймі грудзьмі напор чарназёмнага стэпу, цёмнае сілы маскоўска-мангольскага імпэрыялізму. У гэтым выяўлялася гістарычная роля Вялікага Княства, у гэтым і крыецца гістарычная заслуга беларусаў, на якую ня можа забыцца заходня-эўрапэйскі дасьледвальнік. Крывавілася нашая краіна, гарэлі і разбураліся нашыя гарады, калі маскоўскія наезднікі забіралі у палон, зьдзекваліся і забівалі, рабавалі і палілі, не шкадуючы ня толькі старыкоў, жанчын і дзяцей, але сьвятароў і сьвятыняў, як аб гэтым расказваюць старыя летапісы і гісторыкі. Але не адны толькі сумныя і крывавыя падзеі запісаныя на балонах беларуска-маскоўскіх дачыненьняў. Ёсьць там і вялікія перамогі князя Канстанціна Астрожскага, Мікалая Радзівіла Чорнага, Рамана Сангушкі, Рыгора Хадкевіча, Лявона Сапегі ды шмат іншых. Таму сяньня польскія гісторыкі з зайздрасьцю хочуць прысвоіць сабе усю гісторыю Вялікага Княства, ды пробуюць прыпісваць перамогу пад Оршай і Клушынам, удачы паходаў Сьцяпана Батуры і Жыгімонта Вазы сіле польскае зброі.

Беларускія князі і ваяводы адбівалі напады і праганялі далёка ад межаў Беларусі крымскіх татараў і асманскіх туркаў, бароначы гэтым заходнюю культуру ад азіяцкага спусташэньня. Прыпомнім хаця-бы паходы на татараў Вялікага князя Вітаўта (1392—1430), які, дарма што першы ягоны паход закончыўся крывавай бітвою над Ворсклаю (1399), быў запраўдным страхам для татараў, набраў шмат палонных і асяліў іх у Троках каля Вільні, як сваіх падданых, і меў вялікі уплыў на справы Арды.

Калі усё гэта стане такім чынам перад нашымі вачыма, дык мы бачым, што нашая мінуўшчына цяжкая, але слаўная. Ніхто ня мае права сказаць нам, што мы — народ спрадвечных нявольнікаў, што мы баімся узяць аружжа у рукі. Мы умеем ваяваць і змагацца, таксама, як умеем шчыра, да поту, працаваць і ствараць вялікія матэрыяльныя і духовыя багацьці. Аб гэтым сьветчыць — хочуць ці ня хочуць гэтага нашыя зладумцы — сама гісторыя. Але нашыя войны і нашае шматвяковае змаганьне мела заўсёды вялікі гістарычны сэнс і вялікае абароннае значэньне для Заходняй Эўропы і ейнай арыйскай культуры. Ёсьць народы, якія вялі шмат войнаў, але вялі іх у імя свайго нічым не апраўданага імпэрыялізму, вялі іх, каб заспакоіць свой захопніцкі ненасытны дух, хціва пладоў чужое працы, чужое крыві і разбурэньняў. Скажам, нядоўга шукаючы, — Масква ці Польшча. Можна з упэўненасьцю сказаць, што іхная роля у вагульна-эўрапэйскай гісторыі была больш адмоўнай, чымся пазытыўнай. Памінаючы, прыкладам, усе захопніцкія тэндэнцыі маскоўскіх цароў і сталую пагрозу для Эўропы, нельга забывацца, што і найгоршы вораг эўрапэйскага ладу і культуры, бальшавізм, зьяўляецца прадуктам вялікарасейскае душы, узгадаванае у стэпе над Волгаю. Пляны сьветнае чырвонае рэвалюцыі — працяг царскага імпэрыялізму, толькі у іншай, «ідэялёгічнай» форме, але-ж з тымі самымі праявамі цемры, дзікасьці і жудасьці. Гэтае самае можна сказаць аб

Польшчы. Старая шляхоцкая Рэчпаспалітая ня выконвала ніякае культурнае ці палітычнае місіі, апрача «місіі» захоўваць «залатую вольнасьць» польскае шляхты, што сядзела паразытам на карку прыгоннага сялянства. Недарма-ж і казалі тады: Polska nierządem stoi (Польшча трымаецца на... беспарадку!)... Пасьлявэрсальская Польшча, якая марыла аб mocarstwowości od morza do morza (магутнасьці ад Балтыцкага да Чорнага мора), ня толькі нічога не скарыстала з гістарычнае навукі і не паправіла старых памылак, але пазволіла выкарыстаць сябе як прыладу у руках ангельска-францускіх падпальшчыкаў вайны і фактычна пачала сучасную другую сьветную вайну. Сягоньня-ж кліка польскіх «гэнэралаў» і «міністраў» пробуе зьдзейсьніць сваю «польскую місію», зьвязаўшыся супроць Новай Эўропы з Лёнданам і чырвонаю Масквою.

У вадрозьненьне ад нашых суседзяў, мы, беларусы, ня толькі ня былі ніколі адмоўным фактарам у гісторыі эўрапэйскага кантынэнту, але адыгрывалі у ёй паважную пазытыўную ролю. Сяньня мы навязваем да нашае слаўнае мінуўшчыны і перад адроджанай Новай Беларусьсю ставім заданьне: быць прадаўжальніцаю слаўнае беларускае традыцыі, будучы аднача сна якнайдалей рэвалюцыйнай у разьвязаньні сацыяльных праблемаў. Мы павінны змагацца за праўдны сацыялізм, дапасаваны да нашых беларускіх абставінаў і абапёрты на навейшых дасягненьнях практыкі і навукі аб людзкім грамадзтве і ягоным эканамічным жыцьці, скарыстоўваючы дазнаньне нацыянал-сацыялістычнае Нямеччыны. Наш-жа нацыянальны ідэал: нацыянальная Беларусь, як роўнапраўны сябра Новай Эўропы.

У гэтай новаэўрапэйскай сыстэме для Беларусі рыхтуецца асабліва важнае і ганаровае месца, якое будзе адказваць нашай гістарычнай ролі абаронцы Эўропы ад усходняй і азіяцкае навалы. У свой час Гэнэральны Камісар Беларусі, гаўляйтар Вільгэльм Кубэ, азначыў будучае заданьне Беларусі, асуджанай бальшавікамі быць пляцдармам жыдоўскага нападу на Заходнюю Эўропу, гэткім чынам: Беларусь — штурмовы батальлён Новай Эўропы. Яна парывае назаўсёды усе зносіны з Масквою, зьвяртаецца на свой собскі шлях жыцьця і зноў зварачаецца тварам да арыйскага Захаду.

Дзякуючы свайму далёка высунутаму на усход палажэньню і свайму стратэгічнаму і эканамічнаму значаньню, Беларусь мае вялікую важнасьць ужо сяньня, у вызначальным змаганьні супроць жыда-бальшавізму. Ён-жа, таксама разумеючы гэтую ролю Беларусі, усімі сродкамі стараецца перашкодзіць ейнай адбудове і уваходу у новаэўрапэйскую сфэру і насылае на нас паветраных піратаў з бомбамі, лясных бандытаў з кулямётамі і сабатажнікаў з мінамі. Але ніякія намаганьні бальшавікоў ня здолеюць спыніць і перашкодзіць працэсу аздараўленьня і аднаўленьня. Сяньня Беларусь зьяўляецца штурмовым батальёнам новага эўрапэйскага парадку, — заўтра яна павінна стацца усходняй мархіяй дружнай эўрапэйскай грамады і старой арыйскай культуры.

Гэткім чынам маладое беларускае пакаленьне ня можа наракаць, што яно ня мае сваёй ідэі, што ня мае мэты і пэрспэктывы для свае працы і змаганьня. Яно якраз можа ганарыцца, што мэта, якая стаіць перад беларускай моладзьдзю — вялікая і ганаровая. Нашая місія — не заспакаеньне собскага эгаізму, а служба агульна-эўрапэйскай справе, — быць супрацоўнікамі і удзельнікамі новага парадку, памагаць яго заваяваць, пабудаваць і утрымаць.

Калі-б нехта пробаваў сьмяяцца з нашых лятуценьняў, з «перадчасных плянаў» і «мараў аб вялікай місіі», бо «пакуль-што нідзе ня відаць Беларусі», дык мы скажам яму, што на пачатку кажнага вялікага чыну бывае вялікая думка-ідэя, якая так захапляе сабою, што ня дасьць супачыць, аж покуль не ператорыць яе у рэчаіснасьць. Бяз пляну, бяз ідэі няма ніякага чыну, няма ніякага дзеяньня. Дык мы не паверым ворагам, калі яны будуць пробаваць паралізаваць нашую волю да дзеяньня, асьмейваючы нашу ідэю і даводзячы ейную недарэчнасьць.

Веліч нашай ідэі павінна быць стымулам для нашае моладзі, павінна запаліць ейныя сэрцы іскрамі маладога ідэялізму. А ідэялізм і фанатычная воля — вытрымаць што-б там ні сталася, патрэбныя цяпер, як ніколі. На долю нас, сяньняшніх, выпала вялікае і цяжкое заданьне: ператрываць сяньняшнюю гістарычную завіруху, адваяваць і адбудаваць сваю Бацькаўшчыну, далучыць яе да Эўропы і паставіць нароўні з усімі іншымі культурнымі краінамі. Ці-ж можа быць больш пачэснае заданьне, як з нічога тварыць вялікае паводля сваёй ідэі?

Скажуць: цяжка, непадсілу... Такім хочацца прыпомніць: мусіш, ня маеш права хавацца, адступіцца ці заламацца. Пачуцьцё абавязку дадае сілы, пачуцьцё гонару мацнейшае за стомленасьць, мацнейшае нават за страх перад сьмерцяй. Ідэя перамагае найбольшыя перашкоды, дух ажыўляе стомленае і нават мёртвае цела і вядзець яго да перамогі.

Ня штука перамагаць, калі няма перашкод. Але нікчэмная тая слава, якая не заслужаная ці надта лёгка здабытая.

Дык-жа наша місія цяжкая, але вялікая і ганаровая. Зьдзейсьніць яе — вось павінна быць ідэялёгіяй беларускае моладзі. Яна павінна быць пакаленьнем Волатаў і Прамэтэяў і несьці у сваіх грудзёх веру, якая здольная пераносіць нават горы.

*Д-р Н. Абрамава, старшая праваднічка*

# ЗА МОЦНУЮ БЕЛАРУСКУЮ СЯМ'Ю

У краіне Саветаў жанчына звалася «раўнапраўнай». Яна магла дасягаць усіх мужчынскіх прафэсіяў, яна магла выконваць цяжкую, зьнясільваючую працу, яна магла браць ганаровы удзел у вагульных «выбарах у саветы» — славутай камэдыі савецкага часу.

Гэтыя сталінскія прывілеі адарвалі жанчыну ад сям'і. Колькі-б не зарабляў грамадзянін Савецкага Саюзу — яму было мала для пражыцьця. У сям'і абавязкова працавалі абое: і муж, і жонка. Часамі працавалі на дзьве зьмены.

Жыцьцё у гэткай сям'і выглядала надзвычайна.

Раніцой пачыналася ліхаманкавая хуткасьць. Маленькае, хоць на хвілінку, спазьненьне цягнула за сабой суд.

Дзеці, якія ня былі радасьцю сям'і у Савецкім Саюзе, у гэтыя гадзіны былі найнешчасьліўшымі: іх, угрэтых, зрывалі з ложкаў, укручвалі у хусьцё і беглі з імі у ясьлі.

Жалосны плач гэтых малютак, асабліва сьціскаў за сэрца у васеньнія ранкі, поўныя сіверу ці сырасьці.

Харчаваньне сям'і — у сталоўцы прадпрыемства або у гарадзкой сталоўцы. Іхны выгляд не адпавядаў таму, што магло-б спрыяць апэтыту, ды і навошта ён? Абы зьесьці! Цёмна, накурана, гразна... На сталох ніводнага абруса. Яно і лепш, бо калі яны ёсьць, дык яны сваёй «вясёлкавай» плямістасьцю могуць замяняць картку «мэню»: вось пляма ад боршчу... вось пляма прыкарэўшай кашы... вось косткі — значыцца ёсьць на абед вобла... На падлозе акуркі, наплёвана, сьмяцьцё.

Цесна. Усе, хто хоча паабедаць, адразу ня сядуць. Над кажным абедаючым — жывая чарга чакаючых на мейсца. Яны бессаромна падштурхоўваюць у сьпіну: «Грамадзянка, хутчэй! Што расьселіся на гадзіну? не адны тут»...

Хуткасьць абедзеннае працэдуры залежыць ад «тэмпаў» афіцыянткі. Прысьпяшаць яе, або заўважаць, што яна, падаючы суп, мачае пальцы у талерцы, або што у супе зашмат мухаў — ня раілася: гэтак абрэжа, што горача стане...

Пасьля абеду другая «служба» — хутчэй!

Дзеці увесь час на чужых руках у ясьлях або у дзіцячых садох. Там узгадавальніцы, зьбіраючыся разам, дзеляцца апошнімі навінамі, як каму удалося заказаць паліто «па блату», як праз швагерку-Сарачку удалося дастаць ваўняную жакетку без чаргі. Узгадавальніцы арыйскага паходжаньня з зайздрасьцю слухаюць аповесьці «Сарачкіных швагерак», у іхных думках недасяжныя мары: ваўняныя модныя жакеткі, «мадэльны» абутак, пара якога каштуе толькі, колькі за два месяцы зарабляе узгадавальніца.

І тут гэтулькі пачуцьцяў, што зусім ня дзіва, калі доўга плачуць і клічуць да сябе даверaныя дзеці. Яны даўно намачылі у штонікі, яны за дзень ні разу ня чулі звароту да сябе...

Увечары дзяцей забіраюць змучаныя маткі. Укручваюць у шматы і незадаволена цягнуць дадому. А там? — Нятоплена. Ложкі ад раньня не засланыя. Матка сьпяшаецца якнайхутчэй укласьці дзіця, каб не перашкаджала упарадкаваць крыху у хаце — трэба і памыць, і пацыраваць. Каму тут час паразмаўляць, пагуляць з дзіцём? Парадкуючы, збальша, самае неабходнае, матка сьпяшаецца хутчэй уваліцца у ложка, каб хоць трошкі даць адпачыць змучанаму целу. Муж, які ня мае дадатковых хатніх абавязкаў, пасьля працы шукае больш «утульных» куткоў, чым свая хата. А заўтра? — Заўтра, як сяньня, калі... не арыштуюць... Хто ведае? Мінулай ноччу забралі суседзяў, яны таксама працавалі на фабрыцы...

Гэта толькі кавалачак жыцьця. Тут не хапае хвалюючага змаганьня за талён на дровы. Тут ня сказана, як доўга трэ выстаяць жанчыне у выходны дзень у чарзе, каб атрымаць малака для дзіцяці, каб дабіцца да прылаўка, дзе «выбросили» галёшы... Тут не апісана трагэдыя маці, калі захворвае ейнае дзіця, а лекар не дае ёй патрэбнага аслабаненьня ад працы. Не хапае малюнка, як, вырашчанае на галодным пайку, дзіцянё захворвае у раньні свайго жыцьця на тубэркулёз, і матцы трэба прайсьці шмат перашкод, перажыць шмат прыніжэньняў і хваляваньняў, каб, нарэшце, які-небудзь Ісак Лейбавіч, (стаўшыся Іванам Львовічам) праявіў літасьць: выдаў пуцёўку у дзіцячы тубэркулёзны санаторый. І гэта было радасьцю маткі! За радасьцю з атрыманае пуцёўкі хавалася тая жуда, тая трагэдыя, у якую трапляла уся краіна. У ёй было 75% дзяцей, пашкоджаных тубэркулёзным бронхадэнітам!

Прычынаю была агідная савецкая сыстэма, якая кідала народ у жудасны вір нядолі, бядоты, хваробаў і сьмерці.

Фізычная сьмерць была нішто. Куды горш было маральнае, пры жыцьці, разлажэньне.

Мы ведаем, што сям'я — аснова нацыі. Як пабудаваная сям'я — найдрабнейшае сацыяльнае згуртаваньне, — так будзе выглядаць і увесь народ, які складаецца з сямейных адзінак.

У савецкай краіне фактычна было «сожительство», але ня было сям'і. Яе не магло быць, бо самая сьвятая аснова сям'і — вернасьць, гонар і абавязак — былі асьмеяны, ашальмаваны.

Дзяўчына ня мела свайго дзявочага гонару, — яна бессаромна належыла шмат каму. Жонка ня мела гонару жанчыны, — яна вольна бурыла сьвятасьць вернасьці. Мужчына наогул лічыў сябе зусім вольным і ганарыўся, калі выплачваў амаль усю зарплату на «алімэнты».

Агідна гучэлі адчыненыя судовыя працэсы, на якіх незамужная дзяўчына, прыводзячы «факты», палка даводзіла, што «гэта—бацька майго дзіцяці», а ён адмаўляўся, цынічна выстаўляючы другога.

Дзеці, якія расьлі, ведаючы, што яны «аліментныя», якія бачылі паводзіны маткі, або якія узрасталі пад уплывам ня собскае сям'і (якой ня было), а вуліцы — зразумела, не маглі мець ніякіх пачуцьцяў да сям'і, да маткі.

Гэтыя дзеці маглі пагардліва зьневажаць бацькоў, яны маглі лёгка кідаць сям'ю і ісьці бадзяцца з бязпрытульнымі. Гэтыя дзеці рана выходзілі на самастойны шлях жыцьця з суровай зацятасьцяй у сэрцы, з жаданьнем высьмейваць і адмаўляць усё, што разумелася, як вышэйшае. Із іх выраслі людзі, якія ня мелі у сэрцы нічога сьвятога, ня верылі ні у гонар, ні у любоў, ні у абавязак.

Клясычны плявок бяспрытульнага «пацана», які ён кідаў раз за разам, — быў па сутнасьці агульным пляўком моладзі на жыцьцё, у якое яна выходзіла.

Саюз Беларускае Моладзі моцна асуджвае разбэшчаны савецкі сямейны лад і выхаваньне дзіцяці.

Дзяўчына павінна сябе належна захоўваць да шлюбу. Ні словам, ні паводзінамі яна не павінна даць падставаў да зьнявагі сябе. Чым больш гонару і саромлівасьці будзе у нашае дзяўчыны, тым большай пашанай яна будзе карыстацца.

Наша дзяўчына павінна ведаць, што перш, чымся злучыць свой лёс з лёсам мужчыны, яна павінна зрабіць выбар найбольш годнага. У ім павінна яна знайсьці тыя ідэалы, якія яна выхавала у сэрцы. Ён павінен быць добрым сынам свае Бацькаўшчыны, ён павінен над усё ставіць ейны росквіт, быць сьмелым, чэсным, ахвярным. Ён павінен быць маральна і фізычна здаровым. Ад часу заручынаў аж да шлюбу можна выпрабаваць сябе і выхаваць на будучую душу сям'і — гаспадыню і маці.

Сяброўка СБМ павінна ведаць, што, стаўшыся жонкай, яна павінна стварыць прыгаство і утульнасьць у хаце. Хаціна, дзе ціха, чыста, прыгожа, утульна — вабіць да сябе.

Супольны абед, вячэра, сямейныя сьвяты— гэта тое, што цэмэнтуе сям'ю. Матка любіць яе больш за усё. Бацьку ня вабяць больш іншыя разрыўкі: сваіх знаёмых і прыяцеляў ён вядзе да сябе і разам са сваёю сям'ёю адпачывае. Песьня маткі над калыскай, ейныя пяшчоты, першыя крокі дзіцяці пры дапамозе матчыных рук, першае слова дзіцяці, падхопленае з матчыных вуснаў — вось тое, што на усё жыцьцё злучае матку з дзіцем.

Агорнутае апекай маткі дзіця, падрастаючы, больш за усё любіць сваю хаціну, сваю сям'ю, свой народ. Адсюль яно прыймае першыя нацыянальныя пачуцьці. Тут у ім выхоўваюць высокія ідэальныя імкненьні. Бачучы сябе у коле любоўнае бацькаўскае апекі, бачучы іхную узаемную любасьць і пашану, дзіця прасякаецца пашанай і любасьцю да бацькоў. Гэтак узгадоўваючыся, дзіця ніколі ня кіне матчын родны кут, ня стане на шлях бяспрытульнага валацугі, не заменіць парадак, чысьціню і утульнасьць на драпежніцкі быт у лясох у мэтах рабаваньня.

Сяньняшнія начныя бандыты — гэта нешчасьлівыя аскалёпкі, аліментныя дзеці «сям'і» сталінскага часу. Тыя, што ніколі ня ведалі ні роднага матчынага кута, ні цяплыні дзіцячае малітвы, ні матчынае песьні над калыскай, ні утульнасьці каля маці і бацькі.

Сяброўка СБМ — будучая жонка і маці— ведае, што яна павінна прыкласьці усе стараньні, каб стварыць моцную сям'ю, каб сваё дзіця забясьпечыць усім неабходным з маленства, бо лепш і лягчэй папярэдзіць разьвіцьцё фізычнай і маральнай хваробы, як біцца над рамонтам пашкоджанага арганізму. Хай у нас будзе менш санаторыяў, а будзе больш здаровых, фізычна моцных дзяцей.

За гэта змагаецца Маладая Беларусь, бо гэта карысна нашай краіне і Беларускаму народу.

---

## Старшая праваднічка д-р Н. Абрамава у Вільні

19 кастрычніка 1943 г. Кіраўнічка Юначак пры Кіраўнічым Штабе СБМ старшая праваднічка д-р Н. Абрамава наведала гор. Вільню. Надзвычай гасьцінна і уважліва была яна прынятая сп. Гарадзкім камісарам Гінгстам і ягоным заступнікам сп. Ляк-нэрам. Яны стварылі патрэбныя умовы, каб як мага больш плённа быў выкарыстаны час у Вільні. Ня менш гасьцінная была сустрэча з бурмістрам сп. Башкевічам.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, а таксама усё старэйшае беларускае грамадзянства былі вельмі задаволеныя з прыбыцьця прадстаўніка СБМ, цікавіліся працай Саюзу і прасілі зрабіць даклад аб ягонай працы перад беларускай моладзьдзю г. Вільні.

23 кастрычніка заля беларускае гімназіі была перапоўненая моладзьдзю і настаўнікамі. Дырэктар гімназіі сп. Грышкевіч у палкіх словах вітаў у васобе старшае праваднічкі увесь Саюз Беларускае Моладзі. Даклад д-р Абрамавай аб ролі і заданьнях СБМ быў выслуханы з вялікай увагай. Моладзь Вільні паднесла госьці краскі.

Беларускае грамадзянства выказала Саюзу шмат увагі і шмат у чым дапамагло. Шаноўны гісторык кс. А. Станкевіч вельмі ахвоча даў свае артыкулы аб гісторыі Беларусі для скарыстаньня у вучэбных дапаможніках, ды ахвяраваў колькі кніжак са свае бібліятэкі, пакінуўшы на іх свой аўтограф. Гэтаксама і настаўнік сп. Пяцюкевіч падараваў Саюзу некалькі кніжак са свае бібліятэкі ды некалькі асабістых прэзэнтаў для лепшых юначак. Старэнна папрацавала і кнігарня Станкевіча на Астрабрамскай, каб сабраць усё падыходзячае з кніжнага багацьця Вільні для бібліятэчкі СБМ.

Рэдактар «Беларускага Голасу» драматург Ф. Аляхновіч выказаў гатоўнасьць напісаць п'есу аб ролі моладзі у вадбудове краю, а каб вывучыць тыпы сучаснае моладзі, ён выказаў намер хутка наведаць Менск.

Кампазытар Галкоўскі, хормайстар Фёдараў і інш. абяцалі забясьпечыць новым музычным матар'ялам хоры СБМ.

Адным словам — здавалася, што усе наперабой стараліся як мага лепш дагадзіць, як мага больш выявіць пачуцьця любасьці да уздыму руху моладзі, што яны прыдаюць яму вялікую увагу і ускладаюць на яго вялікія надзеі ды вераць яму.

Нагружаная літаратурай, лепшымі пажаданьнямі і прывітаньнямі, вярнулася старшая праваднічка з Вільні, захоўваючы у памяці надзвычай добрае уражаньне аб гасьцінным горадзе, поўным ахвярных змагароў за шчасьце Беларусі.

**Н. А.**

# ЗВАНЫ КЛІЧУЦЬ

## I.

### Князь-чараўнік

Вязьмеры кахаў князь Усяслаў сваю родную Полаччыну. Усе сілы свае, усё сваё жыцьцё ён ахвяраваў ёй. Ня ведаў супачынку, ні удзень, ні уначы. Дзівіліся людзі з ягонага вялікага розуму, з ягонае надзвычайнае працавітасьці, і ніяк не маглі згадзіцца з тым, што гэта чалавек, такі, як і усе. Хадзіла байка, што радзіўся князь нейкім чарадзейскім способам, што на галаве у яго была нейкая цудоўная азнака, якую ён заўсёды хаваў пад хусткай і, дзякуючы якой, меў гэтую надзвычайную сілу. Казалі яшчэ, што умее ён ператварацца у ваўка і у вадну ноч прабягаць цэлыя сотні вёрст. Аб князю Усяславу складалі казкі, пяялі песьні, выдумлялі прыказкі.

Гутарка аб ім разыйшлася далёка за межы Полаччыны, і усе — старыя і малыя — зналі князя - чараўніка.

## II.

### У няволі

Мігацяць і сьвецяць зорачкі на цёмным небе. Цераз маленькае акно у парубе ласкава усьміхаюцца яны князю Усяславу, песьцяць ягонае сэрца чароўнымі лятункамі і надзяць да сябе ягоныя думкі. Як хвалі на разбушаваным моры, бягуць гэтыя думкі, і перад вачыма палоннага князя Усяслава паўстаюць жывыя малюнкі з мінулага, перажытага.

Яшчэ зусім нядаўна любаваўся ён гэтымі зоркамі цераз высокія вокны свайго княжага палацу. І тады думкі не давалі яму супакою. Сэрца кіпела жаданьнем барацьбы з сваімі даўнымі ворагамі—кіеўскімі князямі. Не сьцярпеў князь. Як арол, паляцеў ён на багаты і вялікі Ноўгарад, завалодаў ім, захапіў у ім шмат здабычы і вярнуўся у Полацак. Згадзіліся паміж сабою паўднёвыя і усходнія князі ісьці вайной проці Усяслава, сабралі вялікае войска, падыйшлі да Менску, узялі яго, здабылі шмат багацьця і пайшлі далей па берагох рэчкі Нямігі, што уцякае у Сьвіслач. І вось пераймае іх тут князь Усяслаў. Адбылася вялікая бойка. Як трава на сенажаці кладзецца роўнымі радамі пад касою спрытнага касца, так клаліся людзі з аднаго і другога боку.

Адважна біліся Усяслававы ваякі, але сіла праціўніка здалела іх. Лягло войска полацкае, бароначы зямельку родную ад чужынскае навалы. Шмат і ворагаў засталося на берагох Нямігі, якая і цяпер яшчэ невялічкім ручуком цячэ цераз Менск.

Думкі плывуць усё далей і далей... Не скарысталі із свае перамогі над Палаччанамі князі кіеўскія, бо шмат сілы страцілі у Няміскай бойцы. І вось заклікаюць яны да сябе Усяслава, каб зрабіць з ім згоду. Жадае гэтага і сам Усяслаў, і з двума сваімі сынамі і невялічкаю дружынай прыходзіць ён у лагер сваіх ворагаў. Але тыя схапілі яго з сынамі, закавалі рукі і ногі у жалезныя путы, прывезьлі у Кіеў і кінулі у паруб пад вялікакняскім палацам. Уядаецца жалезьзе у цела князева. Зламалі ворагі ягоную фізычную сілу, але ягоная душа ня годзіцца з няволяй, ягоныя думкі заўсёды там, на роднай Полаччыне, дзе дрэмяць бясконцыя прасторы лясоў, дзе залаціцца буйное жыта, дзе кажную раніцу чуў ён гучныя званы сьв. Зофіі.

Ах, гэтыя званы! Быццам клічуць яны яго на асірацелую Бацькаўшчыну. Ён чуе іх. Яны аддаюцца у вушшу, трывожаць ягонае сэрца. Гэтак думка аб далёкай Бацькаўшчыне захапіла князя Усяслава. Яна ані на часіну не пакідае яго. Вось і цяпер ціхі тон так выразна прагучэў у маўклівай цішыні раз, другі, што князь аж здрыгануўся і падняў галаву...

Маленькая каморка... Сьцюдзёныя склізкія ад вохкасьці сьцены. Вярэмя саломы на памосьце замест ложка. Цераз невялічкае акно, за кратамі, відаць кавалачак начнога неба. Навокал цішыня... Раптам — што гэта? Прагучэў звон... Яшчэ і яшчэ...

«Узноў», шэпча ён з вялікай тугой, «узноў гэты дзіўны чароўны звон! Звон Зофіі з Полацку. Цэлы год кліча ён мяне з няволі. Край родны, любы! Як цяжка на чужыне, ды у няволі, твайму сыну!»

## III.

### На вялікакняскім пасадзе

Шырака на усе бакі бяжыць гучная слава аб Усяславу-чараўніку. Няма, здаецца, такога чалавека, хто ня чуў-бы аб ім. Усе дзівяцца з ягонага розуму, вытрываласьці. Воблік князя-чараўніка захоплівае усякага. Якраз у гэтыя часы дзікія полаўцы набеглі на украінскія землі і пачалі іх руйнаваць і ніштожыць. Вялікі князь кіеўскі Ізяслаў сабраў войска і пайшоў проці іх паходам. Але не пашчасьціла яму. Полаўцы перамаглі яго, і ён з сорамам павінен быў вярнуцца дамоў, у Кіеў. Не спадабалася гэта Кіяўлянам. Узбунтаваліся яны проці Ізяслава, скінулі яго з вялікакняскага пасаду, вызвалілі з турмы Усяслава і пасадзілі яго на Ізяслававы месца.

З нявольніка Усяслаў стаўся кіеўскім князем. Гэта вялікі гонар. Кіеўскі князь лічыўся найстаршым у гаспадарстве Рурыкавічаў, зваўся вялікім князем. Усякаму меншаму князю вельмі жадаецца князяваць у Кіеве. І за гэтае права паміж князямі часта адбываліся войны.

Закнязяваў Усяслаў на вялікакняскім пасадзе. Замест турмы—воля, замест грэбаваньня — пашана. Чаго-ж трэба болей, здаецца? Але не! Не даюць супакою князю Усяславу думкі аб родным Полацку. Чуе ён, як і у парубе, званы сьв. Зофіі. Клічуць яны князя дамоў, і нішто ня цешыць вялікага князя: ні слава, ні багацьце, ні пашана. Усё аддаў-бы, здаецца, каб быць там, куды лятуць артачныя думкі, куды клічуць цудоўныя званы.

Сумуе князь...

Кліча ён старца-гусьляра. Галава у яго белая, як сьнег, лоб перарэзаны глыбокімі складкамі. Строга глядзяць вочы з-пад густых сівых броваў, увесь выгляд яго кажа аб доўгім цяжкім жыцьці. Сеў ён на лаву каля дзьвярэй, сьмелаю рукой прайшоўся па струнах і старэчым, дрыжачым голасам запяяў сьпевы-байкі. Пяяў ён аб сівой старавечнасьці, любай сэрцу князя Полаччыны, аб ейных непраходных лясох, ураджайных палёх, аб яркім сонцу і ласкавых зорачках. Пяяў аб харобрым і слаўным князю-чараўніку, аб ягоных паходах, ягоным мудрым князяваньні, ягоным добрым сэрцы. Сьпевам уторылі гукі гусьляў. У іхным голасе была і вясёласьць, і туга, і яны то голасна гаманілі, то ледзь чутна шапталі.

Пяе гусьляр, пяюць струны, а князь сядзіць непарушна і маўчыць.

Змоўкнуў старац. Апошні гук гусьляў задрыжэў і шчэзнуў, а князь яшчэ доўгі час сядзіць моўчкі, потым прачнуўся, шчодра дзякуе гусьляру і зноў астаецца адзін з сваімі думкамі-лятункамі.

## IV.

### У Полацак

Пачаўся сёмы месяц князяваньня Усяслава на кіеўскім пасадзе. Зьбіраецца ён у паход на ворагаў, склікае вялікае войска, доўга ідзе з ім, падыходзіць урэшце да Белгараду і раскідваецца табарам навокал яго.

Ноч. Сотні вогнішчаў рассыпаныя па полі. Каля вогнішчаў кратаюцца чорныя цені людзей. Адны сядзяць моўчкі, успамінаючы аб роднай хаце. Другія гутараць аб паходах, бойках. Трэйція слухаюць баечніка. Каля аднаго вогнішча сабралася вялікая грамада. Тут чутны сьпевы, гукі гусьляў і жалейкі.

Толькі у стане вялікага князя Усяслава ня чуваць было ні гоману, ні сьпеваў, ні музыкі. Адна думка моцна засела у князевай галаве. Наважыў ён ад усяго адрачыся і уцячы у Полацак. «Ня трэба доўга чакаць», — думаў ён: — «як толькі месячык зойдзе, мяне ужо тут ня будзе».

Павесялеў князь. Хутка, хутка ён прывітае сваю Бацькаўшчыну, пабачыць свой родны Полацак, пачуе званы сьв. Зофіі. Ізноў пачне працаваць на карысьць свайго народу. А ворагам сваім не даруе. Сілы вярнуліся князю. Маркоты як ня было.

Паднялося сонца. Прачнуўся табар, зашумеў, як пчолы у вульлі. А князь Усяслаў ужо далёка быў ад гэтага месца. Што моцы скакаў ён на конях у родны Полацак, а адтуль на пярэймы яму несьліся прызыўныя гукі званоў сьв. Зофіі...

V.

**Сонца заходзіць**

Навокал ложка князя-чараўніка сабралася ягоная верная дружына. Усе пaглядаюць на поўны адважнасьці і супакою твар, у якім пачынае ужо адбівацца вечнасьць, на сівыя валасы, што не адным віхром у баю разьвяваліся, на зацiснутыя яшчэ моцна кулакі...

Здаецца князю, што ён трымае войстры крывіцкі меч і мчыцца наўздагон за войскам Манамаха... Засьвяціліся старэчыя вочы, а вусны шэпчуць: «За зруйнаваныя палі, сёлы і месты крывіцкія, за зрадніцкі наезд на знатны Полацак, за Нямiскую крыўду!...» І чуецца яму, быццам ягоныя воі адгукнуліся моцным клічам: «Адпомсьцім!»

Прыпадняўся князь з падушак і праменнымі вачыма абвёў верную дружыну: «Шмат славы, шмат гора... Але усё для цябе, Крывіччына!.. Бывайце, верныя, мужныя воі... Ня бываць мне больш з вамі у шырокім полі, не званіць мячом аб варожыя шаломы... Бывай, мой родны Полацак!...»

І у тую часіну, калі князь разьвітаўся з дружынай і з сваім родным краем, зазванілі званы сьв. Зофіі. Яны клікалі слаўнага героя Крывіччыны на вечны адпачынак.

(Передрук з «Беларускае школы» № 1 за 1941/42 г.)

**Увага:** Князь Усяслаў Чарадзей князяваў у Полацку ад 1044 да 1101 году. Амаль усё сваё жыцьцё правёў у войнах. Бітва на Нямізе (гэтая рэчка цячэ праз Менск і уцякаець у Сьвіслач) адбылася у 1067 г. Апошні наезд Уладзімера Манамаха на Полаччыну быў у 1084 г.

**А. Васілёк.**

---

*В. Аганёк*

# МЕНСК, СТАЛІЦА БЕЛАРУСІ

Паняцьце Бацькаўшчыны складаецца із шмат якіх элемэнтаў, але усе народы прывыклі уважаць за сымбаль Бацькаўшчыны назоў свае сталіцы.

Мы, беларусы, мелі не адну сталіцу: Полацак, Навагрaдак, Вільня былі на чарзе цэнтрам нацыянальна-палітычнага жыцьця. У навейшы час, дзякуючы свайму выгоднаму цэнтральнаму палажэньню і стала узрастаючай ролі як асяродка беларускага адраджэньня, агульна прызнанай сталіцай Беларусі стаўся ад 1917—1918 г. г. Менск.

Менск раскінуўся пасярэдзіне беларускага краю, на нявысокіх узгорках. Пасярэдзіне ён перарэзаны пакручастай істужкаю Сьвіслачы. Гэтая невялічкая рэчка, якая нясе свае каламутныя воды у правы прыток Дняпра Бярэзіну, мела калісьці больш паважны выгляд, убіраючы у сябе воды больш дробных рэчак, якія даўно ужо абярнуліся у звычайныя брудныя раўчукі. Пры утоку аднае такое рэчкі Нямігі у Сьвіслач і была заснаваная, недзе у пачатку 11-га ст. ці мо' яшчэ раней, сталіца Беларусі, Менск.

Назоў гораду паходзіць праўдападобна ад слова «мена», бо калісьці, яшчэ у дагістарычныя часы, на мейсцы, дзе сяньня горад, былі волакі, па рацэ хадзілі вялікія гандлёвыя судзіны і ішоў жывы менавы гандаль у эўрапэйскім маштабе.

Першыя гістарычныя зьвесткі аб Менску паходзяць з 1067 г., калі ён быў абложаны кіеўскімі князямі. Паміж імі і Усяславам Чарадзеем Полацкім завязалася тут, над Нямігаю, жорсткая бітва, аб якой у «Слове аб палку Ігаравым» гаворыцца:

«На Нямізе сьцелюць галовы, што снапы,
а малоцяць булатнымі цапамі,
кладуць жыцьцё на таку, ды веюць душу ад цела.
Не дабром засеяныя крывавыя берагі Нямігі,—
яны засеяныя касьцямі рускіх сыноў».

У выніку гэтае бітвы лягло шмат войска з аднаго і з другога боку. Калі-ж праз зраду Усяслаў папаўся у палон, дык кіяўляне моцна зрабавалі і спустошылі Менск, які тады ужо быў багатым местам, залежным ад Полаччыны.

У 1084 г. Менск быў зноў зруйнаваны кіеўскім князем Уладзімерам Манамахам. Як падае летапіс,— «не засталося у ім ні чэлядзіна, ні скаціны».

Пасьля сьмерці Усяслава Менск дастаўся аднаму з ягоных шасьцёх сыноў Глебу, які быў першым удзельным князем Менску.

У 1116 годзе Уладзімер Манамах заваяваў Менск, а Глеба узяў у палон, дзе ён і памёр. Пасьля Глеба у Менску да 1195 г. па чарзе княжылі: Расьціслаў, Валадар і Усяслаў. Пасьля перамогі літоўскага



Жаночы Спаса-Прэабражэнскі манастыр.



Катэдральны Петра-Паўлаўскі сабор, збудаваны у 1616 годзе.



Месца, дзе знаходзіўся стары замак, акружаны Сьвіслаччу і Нямігай.

князя Рынгольда над саюзнымі князямі над берагамі Нёмна Менскае княства лучае у поўную залежнасьць ад Наваградзкага цэнтру. За дату канчальнага далучэньня Менску да Вялікага Княства Літоўскага уважаюць 1326 г. Апошнім удзельным князем быў Фёдар Сьвятаславіч.

Некаторыя гісторыкі уважаюць, што пасьля сьмерці Валадара Васількавіча Менск дастаўся быў Міндаўгу. Дзякуючы перамозе над татарамі у 1241 годзе каля Койданава, Менск быў вызратаваны ад мангольскае няволі.

У гэтым самым часе Менск быў ужо добра умацаваны і абведзены высокім валам, а на нявысокім узгорку над Сьвіслачай пры вусьці Нямігі, якая сяньня зусім заглохла, быў збудаваны у 13 стагодзьдзі моцны замак. Руіны існавалі яшчэ да 19 стагодзьдзя. З іх быў збудаваны прыватны дом адным із жыхароў Менску, а гарадзкі вал зруйнавалі шведы пры Карле XII. На прадмесьці Камароўка існавала раней крэпасьць на востраве сярод возера. Сяньня ад возера асталося толькі балота, і тое асушваецца, а ад крэпасьці няма ніякага сьледу.

У 14-м стагодзьдзі Менскам уладалі князі з роду Гэдыміна, а вялікі князь Ягайла аддаў яго свайму брату Скіргайлу. Ад часу Горадзельскае вуніі Менск, стаўшы цэнтрам найбольшага тэрытарыяльна ваяводзтва, пачаў хутка расьці. Гаспадар Казімер Ягайлавіч даў Менску у 1441 г. адмысловыя прывілеі, а Аляксандар даў яму у 1496 г. «на вечныя часы нямецкае права, якое завецца Магдэбургскім.»

Разам з палітычным ростам горад расьцець і эканамічна. Менск прасякалі два вялікія гасьцінцы: адзін—праз Лагойск, Барысаў, Воршу і Смаленск на Маскву, другі—праз Слуцак на Валынь і далей, а на захад — да Берасьця і на Варшаву. Гэтымі шляхамі ішлі і войскі, і гандаль.

У 1505 г. Менск быў моцна спустошаны і зруйнаваны татарамі, а у 1508 г. — маскалямі. Каб узьняць дабрабыт гораду, гаспадар Жыгімонт Аўгуст пашырыў у 1558 г. правы гораду, дазволіў кірмашы і надаў млын на р. Случы і прыгарадныя землі на 3 мілі навокал гораду.

Рэлігійныя спрэчкі, якія цягнуліся на Беларусі праз усё 17 і 18 ст ст., не асталіся бяз сьледу і у Менску. Езуіты, якія зьявіліся у нас у пачатку 17 ст., пабудавалі за гэты час 11 манастыроў са школамі і калегіямі і стараліся пашыраць царкоўную вунію. Праваслаўе баранілі брацтвы, якіх было у Менску сем. Яны арганізавалі друкарні, школы, багадзельні.

У 1654 г. Менск занялі на пэўны час расейцы, ад чаго горад моцна цярпеў.

У канцы 17 ст. у Менску (нароўні з Вільняй і Наваградкам) пачалі адбывацца трыбуналы, г. зн. вышэйшыя суды, але пасьля іх перавялі у Горадню.

У пачатку 18 ст. горад шмат пацярпеў ад расейцаў і шведаў, якія змушалі плаціць вялікія падаткі, а у 1793 г. пры цараваньні Кацярыны II Менск адыйшоў (пасьля другога падзелу Рэчыпаспалітай) да Расеі і стаў цэнтрам аднаго з трох намесьніцтваў, якое у 1796 г. (пры Паўлу І-м) былоператворана у губэрню.

У 1812 г. 26 чырвеня у Менск увайшоў француcкі корпус маршала Даву. Палякі сустракалі яго урачыста, ускладаючы надзеі на абяцаньне Напалеона аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. Маршал Даву заняў кватэру на Высокім Рынку, які назвалі у 1926 г. Пляцам Волі. У той час на Высокім Рынку насупраць Марыінскага касьцёлу стаяла ратуша, а побач з ёю — праваслаўны сабор, ды будынкі езуіцкае калегіі і вуніяцкага манастыра. У часе панаваньня французаў уладу у горадзе захапілі былі палякі. Пасьля адыходу французаў Менск выглядаў спустошаны і разбураны. У Менску згінула каля 35 тыс. жыхарства, а ад таго, што трупы доўга валяліся непахаваныя, пайшлі пошасьці.

У 1820 г. езуіты былі высланыя з Менску і зачыненая іхная школа, якая існавала ад 1650 году. У 1825 годзе пабудаваны будынак турмы з 4-ма вежамі і каменнаю сьцяною званы Пішчалаўскім замкам (ад імя будаўніка). У 1831 годзе Менск страшэнна пацярпеў ад эпідэміі халеры. Дзеля зма-

ганьня 3 г. зв. лістападаўскім паўстаньнем быў абвешчаны ваенны стан, які быў зьняты толькі у наступным годзе. Ад 1835 г., калі была для жыдоў вызначаная г. зв. рыса аседласьці, яны сталі масава сяліцца у Менску і пераймаць у свае рукі гандаль і рамёслы.

У 1844 г. у ратушы на Саборным Пляцы (Высокім Рынку) быў пабудаваны невялікі тэатр. У 1850 г. на мейсцы драўлянае Сьвятадухаўскае царквы быў пастаўлены каменны Петрапаўлаўскі сабор, зьнішчаны бальшавікамі у 1936 г. Рэшткі старое ратушы, якой пасьля пажару у пал. 19 ст. расейцы не захацелі адбудоўваць, былі разабраныя і пляц ачышчаны.

У 1862 г. у Менску адбыліся маніфэстацыі, якія былі пачаткам паўстаньня Кастуся Каліноўскага у наступным годзе. У Менску быў уведзены ваенны стан, які трываў аж да 1870 г., што моцна адбілася на дабрабыце гораду. Паўстаньне было да верасьня 1863 г. задушана, а вуліцы укрыліся трупамі павешаных паўстанцаў.

У 1871—1874 г. г. праз Менск былі пракладзеныя дзьве чыгункі: Маскоўска — Берасьцейская (Масква — Смаленск — Ворша — Менск — Баранавічы — Берасьце) і Лібава-Роменская (з Вільні праз Менск на Бабруйск і Гомель), якія амаль супадалі з ранейшымі гасьцінцамі. Чыгуначнае скрыжаваньне, сувязь з усімі буйнейшымі беларускімі гарадамі і цэнтральнае палажэньне узьнялі Менск эканамічна і вылучылі яго на першае мейсца у беларускім краі. Але у 1881 годзе здарылася вялікае няшчасьце: страшэнны пажар зьнішчыў большую частку гораду. Прычыны пажару асталіся невядомымі, хоць у дакумэнтах запісана, што пажар узьнік ад падпалу.

Менск пачаў зноў паволі адбудоўвацца. У 1890 г. быў адчынены даволі буйны тэатр, які існуець і да сяньня, а у 1891 г. была пушчаная у рух менская «конка», прадмет шмат жартаў і анэкдотаў, якая у 1928 г. была замененая трамваем. Электрычнае асьвятленьне датуецца з 1894 году. Прыватнымі асобамі было пабудована шмат вялікіх будынкаў, што дало гораду заходня-эўрапэйскі выгляд.



Крыжовая Пакроўская царква пры Архірэйскім доме.

У 19-м ст. былі перароблены на маскоўскі лад ці зьнішчаныя усе старыя манастыры, касьцёлы, цэрквы і вурадавыя будынкі, якія захоўвалі стары беларускі стыль. Новы мураваны Менск схаваў пад сабой і старажытны замак, і ратушу, і шмат цэркваў і касьцёлаў, і колішнюю Нямігу, па рэчышчы якое цяпер праходзіць вуліца таго самага назову, а самая рэчка цячэ сяньня пад зямлёю, па штучных трубах.

У 1914 г. у Менску было ужо каля 120 тыс. жыхароў, з якіх, праўда, добрую палову складалі жыды, 40% было беларусаў і пакрысе палякаў, расейцаў і татараў, якія зьявіліся тут яшчэ пры Вітаўце, які перасяліў іх сюды з Крыму. Жыды трымалі у сваіх руках гандаль, а малая частка іх займалася рамяслом і працай. Расейцы—гэта былі пераважна розныя урадаўцы, а палякі — памешчыкі і абшарнікі, якія праз касьцёлы і манастыры стараліся апалячыць беларускіх каталікоў.



Агульны від Менску у 1903 годзе і левага берагу Сьвіслачы.

З навучальных установаў да першае сьветнае вайны у Менску існавала мужчынская (ад 1803 г.), жаночая (ад 1879 г.) гімназіі, колькі прыватных гімназіяў, рэальнае вучылішча (ад 1880 г.), духоўнае вучылішча і сэмінарыя (ад 1840 г.), гандлёвае і гарадзкое вучылішчы ды некалькі рамесьніцкіх. Усе яны былі расейскія.

Прамысловасьць стаяла вельмі нізка, насіла пераважна саматужны характар і належыла прыватным асобам. Лік рабочых не перавышаў 2—2½ тыс.

Вайна 1914—1917 г.г. пакінула на Менску свой сьлед. У часе польскай акупацыі шмат кварталаў гораду выгарала ды былі зьнішчаны абедзьве чыгуначныя станцыі. Дзякуючы таму, што гістарычная Вільня апынулася па-за лініяй фронту, на нямецкім баку, Менск, які пасьля яе быў найбольшым горадам, высунуўся на першае мейсца і у грамадзкім, і культурным жыцьці і ад 1917 г. стаўся агульнапрызнанай беларускай сталіцай. Тут быў 25. III. 1917 г. створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт, пазьней Беларуская Цэнтральная Рада, тут у сьнежні 1917 г. адбываўся Усебеларускі Кангрэс, ганебна разагнаны бальшавікамі.

25 лютага 1918 г. Менск займаюць немцы і беларусы актыўна прыймаюцца за палітычнае жыцьцё, што у выніку прывяло да абвешчаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі—25 сакавіка 1918 г. Нажаль, ужо 9 лістапада 1918 г. немцы пакінулі Менск, які быў заняты бальшавікамі. 1-га студзеня 1919 г. была абвешчаная незалежная Савецкая Беларусь. Але Менску давялося яшчэ раз папасьці у рукі палякаў (8 жніўня 1919) і толькі пасьля іхнага адыходу 11 ліпеня 1920 бальшавікі занялі беларускую сталіцу, каб трымаць яе у сваіх руках аж да 27 чэрвеня 1941 г., калі у Менск увайшла вызваліцельная нямецкая армія Адольфа Гітлера і пад ейнай аховай для беларускага Менску пачалося новае вольнае жыцьцё.

**(Працяг будзе).**

*А. Овіч*

# Шляхі разьвіцьця беларускае літаратуры

Разьвіцьцё літаратуры у Беларусі бярэ свой пачатак у 10 стагодзьдзі нашай эры, якое прынесла з сабою пісьменства у царкоўна-славянскай або, як яе называе шмат вучоных, старабаўгарскай мове. Літаратурная дзейнасьць расьцягвалася спачатку пераважна на копіі і пераклады у царкоўна-славянскую мову, якая была блізкая да беларускай і тады яшчэ зразумелая усім беларусам.

Галоўным чынам гэта былі часткі Біблії, эвангельляў, біяграфіяў сьвятых, казаньні, г. зн. апокрыфы (рэлігійныя фантастычныя апавяданьні, царквою выразна не дазволеныя) і іншыя творы, якія абслугоўвалі рэлігійныя патрэбы. У меншай колькасьці выступалі пераклады сьвецкага характару, паміж іх варта успомніць пераклады колькі гістарычных хронікаў бізантыйскіх пісьменьнікаў, а таксама бізантыйскіх апавяданьняў, асабліва народныя з часоў сярэднявечча, як, прыкладам, г. зв. «Александрыя» — фантастычнае дыдактычнае апавяданьне, якое трактуець аб Аляксандру Вялікім.

Толькі паволі пачынаецьі у Беларусі разьвівацца собская літаратура, хоць таксама у тэй самай царкоўна-славянскай мове і таго самага пераважна царкоўна-рэлігійнага характару. У 12 стагодзьдзі была ужо пэўная колькасьць выдатных асобаў у гэтай галіне, як, для прыкладу, Клімент Смаляціч (пам. 1147), аўтар некалькі рэлігійна-філёзофскіх твораў (пасланьняў), Кірыла Тураўскі (пам. 1182), выдатны прамоўца, пісьменьнік і аўтар цэлага шэрагу царкоўных казаньняў, малітваў і канонаў. Аўрам Смаленскі (канец 12 ст.), вялікі вучоны «кніжнік», а далей Даніла Паломнік, аўтар слаўнага у той і у пазьнейшы час твору «Падарожжа у Ерусалім» (1115). Зьяўляюцца таксама афіцыйныя творы сьвецкага характару, гістарычныя хронікі аб мяйсцовых здарэньнях ды гэтак званы «Летапіс Несьцера» (канец 11-га пач. 12-га ст.). Собскае прыгожае пісьменства не магло амаль разьвівацца, таму што яго тармазілі мала пазытыўнае становішча царквы да чыста мастацкіх твораў і розьніца паміж беларускай і тагачаснай літаратурнай царкоўна-славянскаю моваю. Варта заўважыць, што у творах шмат царкоўных пісьменьнікаў, асабліва у успомненага вышэй Кірылы Тураўскага або у апавяданьні няведамага аўтара пра жыцьцё сьвятога Мэркура із Смаленску, рэлігійна-царкоўную аснову перарастае нацыянальная літаратурна-мастацкая тэндэнцыя.

У чыста мастацкай літаратуры гэнага часу маем толькі адзін, але затое тым большы паводля сваёй аднаразовасьці і сваіх паэтычных якасьцяў помнік, які вырас з народнае глебы, — твор няведамага трубадура, «Слова аб палку Ігаравым» (канец 12 ст.). Гэта свайго роду беларуска-украінская песьня аб Раляндзе. Зьмест гэтага твору нясець апавяданьне пра няшчасны паход беларускага князя Ігара із племя севяранаў супроць палачан, а таксама шмат іншых эпізадычных песьняў аб слаўным полацкім князю Усяславе Чарадзею.

У ім, м. і., апісаная бітва на берагох ракі Нямігі, пры старым Менску у 1067 г., калі «галовы слалiся як снапы, малацілі сталёвымі цапамі, клалі жыцьцё на таку, а душу веялі ад цела». Далей мы чуем у ім пра Ігаравага унука Ізяслава, князя Горадзенскага, якога забілі літоўцы. Усё гэта уяўляе творчасьць тагачаснага беларускага народна-гэраічнага эпасу, спалучаную з некалькімі украінскімі песьнятворамі і асьветленую з гледзішча вяліка-кіеўскае тэндэнцыі праз нейкага украінска-кіеўскага кампілятара (1186).

У гэтай паэме пра Ігараў паход пэўне упяршыню заміж царкоўна-славяншчыны ужытая беларуская мова. Ад гэтага часу аддзяленьне ад царкоўна-славянскае мовы становіцца усё выразьнейшае і у часе ад 13 да 14 ст. беларуская мова, хоць таксама яшчэ ня зусім вольная ад царкоўна-славянскага уплыву, пераходзіць таксама у мову літаратурную. Галоўна да гэтага разьвіцьця спрычынілася тое, што у беларускім прасторы паўстае літоўскае гаспадарства, у якім пры выдатным князю Альгердзе (1345—1377) беларуская мова прызнаецца за мову дзяржаўную. Утварэньне гэтага гаспадарства выклікае пэрыяд росквіту літаратуры асабліва гістарычнага і юрыдычнага характару. Побач з гэтым разьвіваецца таксама далей царкоўная літаратура.

У т. зв. «залатую пару» ёсьць шмат слаўных пісьменьнікаў, для прыкладу Францішак Скарына з Полацку. Ён зьяўляецца таксама аснавальнікам беларускага друкарства (1517) і выдаў першую друкаваную беларускую Біблію. Далей сюды належаць Васіль Цяпінскі, адзін з дзеячоў рэфармацыі, і аднае думкі з ім Сымон Будны.

У гэтым часе беларуская мова штораз больш выступаець і у рэлігійнай літаратуры. Вольная мастацкая літаратура апанаваная перакладамі (асабліва сярэднявечных рыцарскіх раманаў і апавяданьняў пра Аляксандра, Траянскую вайну, караля гунаў Атылю, аб Трыстане і Ізольдзе і аб рыцару Тындалю). Праўда, яшчэ слаба вызначаная, але усё-ж ужо бачна разьвіваецца сваяродная паэзія. Паэты гэтага часу — гэта Андрэй Рымша, Ян Казімер Пашкевіч, лірык Лазар Барановіч і інш. Цікавыя розныя дзёньнікі і гістарычная літаратура успамінаў гэнага часу («Водпісы» Філона Кміты, «Дзёньнік» Тодара Еўлашэўскага, «Баркулабаўская хроніка» Аляксея Мсьціслаўца і інш.). Вартая увагі далей сатырычная літаратура («Ліст» Камуняки, «Прамова» Мялешкі і інш.).

Набліжэньне Вялікага Княства Літоўскага да Польшчы адчыняе шырокую дарогу польскаму

уплыву і выціскае беларускую мову. Вунія 1596 г. прыносіць рымска-каталіцкае веравызнаньне у Беларусь. Рэлігійна-царкоўная літаратура атрымала зноў новы штуршок, але яе пішуць ужо не у беларускай, але у польскай мове. Шмат беларусаў забрала польская (Кляновіч, Шымановіч і інш.) або маскоўская (Сымон Полацкі) літаратура. Літаратура у беларускай мове ідзець у забыцьцё. Ёй асталася толькі сярэднявечная «школьная драма» (канец 17, пачатак 18 ст.), але і тут беларуская мова ужываецца толькі у моцным зьмяшаньні з лацінскімі і польскімі макаранізмамі, а постацьцю народнае камэдыі зьяўляецца заўсёды беларускі селянін, які стаіць у цэнтры жартаў. Паўстаюць камэдыі, як, для прыкладу, Каятана Марашэўскага. Вартыя увагі антысэміцкія тэндэнцыі і рысунак жыдоўскага тыпу, якія у іх выступаюць. У новай беларускай літаратуры гэтыя народныя камэдыі аджылі у драматычных творах Францішка Аляхновіча у новай, выпраўленай форме.

У 18 ст. старая беларуская літаратура поўнасьцю занепадае, асабліва пасьля далучэньня Беларусі да Расеі. Толькі у пачатку 19 ст. заварушыліся зноў першыя спробы каля літаратуры у беларускай мове. Гэтая літаратура мае свае карэньні ужо не у старых рэлігійных пераказах, але у глыбокай сувязі з народнаю глебаю. Выяўленьне селяніна і сялянскага жыцьця зьяўляецца ейным галоўным зьместам. У гэтым часе ёсьць таксама выдатныя «польскія» паэты, як, для прыкладу, Адам Міцкевіч, які аднак быў з паходжаньня беларусам. Ён залічаўся да польскае літаратуры, хоць ягоная паэзія паводля усяго свайго характару мае свае карэньні у беларускім абшары і у беларускай літаратурнай традыцыі. За пачатак новае беларускае літаратурнай эпохі уважаюць 1809 год, калі зьявіўся першы беларускі верш Яна Баршчэўскага («Чымжа твая, дзеванька, галоўка занята?»). Гэты верш, паложаны на музыку Абрамовічам, належыць ужо сяньня да чыстае народнае паэзіі. Баршчэўскі (1790—1851) пішa яшчэ мала пабеларуску, больш папольску і парасейску, але заўсёды з вялікай любасьцю выяўляе глыбока - рамантычную беларушчыну. Гэта самае робяць і іншыя паэты і пісьменьнікі, як: Аляксандар Рыпінскі, Ян Чачот і інш.

Адным з найбольш удалых прадстаўнікоў новага беларускага пісьменства зьяўляецца Вінцук Дунін-Марцінкевіч (1807—1884). Праўда, ягонае значаньне больш у колькасным, чымся у якасным дачыненьні. Ніводзін з беларускіх пісьменьнікаў 19 ст. не напісаў гэтулькі шмат твораў, як Марцінкевіч. Ягоныя творы вялікага літаратурнага значаньня ня маюць, але ён у сваіх шматлікіх публікацыях заўсёды пашырае прапаганду беларускае мовы. Марцінкевіч зьяўляецца творцам беларускае драмы. Ягоны першы твор, камэдыя «Сялянка» (1846), быў пастаўлены на менскай сцэне, як опэра. Ягоны твор «Пінская шляхта» знаходзіцца і сяньня у рэпэртуары Менскага Гарадзкога Тэатру. Ён напісаны шчыра і жыва і зьяўляецца адзіным творам гэтага аўтара, які выдзяляецца яснаю нацыянальнай ідэяй.

Падобна як Марцінкевіч і у тым самым дусе пішуць Вінцэнт Каратынскі і Арцём Вярыга Дарэўскі.

Яшчэ перад Марцінкевічам маем першага сялянскага паэту Паўлюка Бахрыма, вучня першае школы ксяндза Пятра Магнушэўскага. З ягонага жыцьця і ягоных паасобных вершаў можна пазнаць, што беларуская літаратура страціла у ім пакліканага да вялікае справы паэту, якога можна параўнаць з выдатным украінскім паэтам Тарасам Шэўчэнкам.

Але найвыдатнейшы вершаваны твор гэнага часу «Тарас на Парнасе» паходзіць ад няведамага аўтара (1836). Галоўная ідэя: беларусы павінны пасылаць на Парнас свайго собскага Тараса, так, як украінцы паслалі свайго Тараса Шэўчэнку.

Каля канца 19 ст. маем выдатных паэтаў: Францішка Багушэвіча, (1840—1900), Яна Няслухоўскага (1851—1897), Адама Гурыновіча, Альгерда Абуховіча (1840—1905) і інш. У цэнтры гэтае паэзіі стаіць беларускі селянін. Творы гэтых паэтаў атрымалі свой характарыстычны твар праз нацыяналістычную накіраванасьць і сваю войструю антысэміцкую і антымаскоўскую паставу. Найважнейшыя творы Багушэвіча — гэта «Дудка беларуская», «Смык беларускі», «Беларуская Скрыпачка». Ад Няслухоўскага паходзіць зборнічак «Вязанка». Тут пачынаецца і разьвіцьцё беларускае прозы у форме меншых апавяданьняў і большых твораў эпікі («Тралялёначка» Багушэвіча). Гэтымі творамі пачынаецца і намаганьне каля разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы, у чым асабліва заслужыўся Абуховіч.

Найбольшае разьвіцьцё беларуская літаратура перажывае у 20 ст. пасьля першае рэвалюцыі у Расеі у 1905 годзе. Ад 1906 да 1915 г. рэгулярна выходзіць часапіс «Наша Ніва». Вакол яе зьбіраецца цэлы шэраг сялянскіх паэтаў і пісьменьнікаў. Гэты літаратурны кірунак атрымаў ад часапісу імя «Нашаніўства» у значаньні «адраджэньне нашае роднае нівы». Галоўнай ідэяй і лёзунгам іхных твораў зьяўляецца фармаваньне і здабыцьцё беларускага сялянства. Беларуская літаратура пачынае адбываць цяпер той шлях, які эўрапэйская літаратура ужо перайшла (рамантызм, сэнтымэнталізм, рэалізм, натуралізм). Старэйшыя прадстаўнікі новага кірунку яшчэ моцна зьвязаныя з папярэднімі эпохамі разьвіцьця беларускае літаратуры.

Першым празаікам новага кірунку зьяўляецца Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі, 1870—1920). Ягоныя галоўныя творы—гэта драма «Злодзей», зборнік апавяданьняў «Бярозка», «Васілёк» і незакончаны раман «Золата». Гарачай рэвалюцыянэркай была паэтка Алёйза Цётка, літаратурная дачка Багушэвіча.

У ваднаразовай асабістасьці Каруся Каганца (—1918), які распачаў сваю літаратурную дзейнасьць амаль адначасна з Багушэвічам, мы маем гарачага змагара-нацыяналістага, глыбокага народнага лірыка, які творыць з народнае глебы, апавяданьніка і драматурга. Да ягоных часта стаўленых на беларускіх сцэнах твораў належыць «Модны шляхцюк», першыя вузоры беларускае гістарычнае драмы—гэта «Старажовы курган» і «Сын Даніла». У траўні 1943 мінуліся 25-ыя угодкі ягонае сьмерці.

На чале «Нашаніўскага» кірунку стаяць два паэты, абодвы народжаныя у 1882 годзе: Янка Купала і Якуб Колас. Значэньне Янкі Купалы ляжыць галоўным чынам у галіне лірыкі (зборнікі «Жалейка», «Гусьляр», «Шляхам Жыцьця», «Спадчына», «Безназоўнае» і інш.) і у драматургіі («Адвечная песьня», «Паўлінка», «Сон на кургане», «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя»). У сваёй паэзіі Купала у першую чаргу апяваў волю і імкненьні беларускага селяніна да вышэйшага уздыму свайго жыцьця. Найважнейшыя паэмы Коласа: «Новая зямля» і «Сымон Музыка» ды празаічныя апавяданьні і раманы: «У Палескай глушы» і «У глыбі Палесься» адчыняюць багацьці ягонае душы.

Хаця абодвы паэты спачатку войстра сталі фронтам супроць бальшавізму (Купала ратаваўся праз самагубства ад нязноснага канфлікту з сумленьнем), але урэшце яны пападаюць у сеці бальшавіцкае прапаганды, якая злоўжывае іх для сваіх мэтаў.

Калі Я. Колас і Я. Купала стаялі на чале нашаніўскага кірунку ідэялёгічна, дык з мастацкага боку свой найвышэйшы пункт ён дасягнуў у паэце Максіму Багдановічу (1892—1917) і Алесю Гаруну (1887—1920), які доўгія гады пакутваў у царскай вязьніцы і на выгнаньні. Нажаль, абодвы памерлі вельмі рана. Іхная спадчына невялікая. Творы Багдановіча зьмяшчаюцца у двух томах, між імі зборнік вершаў «Вянок», Творы Гаруна яшчэ ня усе сабраныя. Адзін з найважнейшых — гэта «Матчын дар».

Сваё дапаўненьне атрымаў «нашаніўскі» кірунак у творах пісьменьніка Максіма Гарэцкага (радз. 1893) і драматурга Францішка Аляхновіча (радз. 1883).

Псыхалёгічна глыбокія творы Гарэцкага, як апавяданьні «Досьвіткі», «Антон», «Дзьве душы», «Ціхія песьні» і раман «Крыж» зьвяртаюцца у першую чаргу да беларускай інтэлігенцыі, якая паходзіць з сялянства.

**(Працяг будзе)**

# УЛАДЫСЛАЎ КАЗЛОЎСКІ

## ДА АПОШНЯЕ ХВІЛІНЫ НА СЛУЖБЕ ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Мужны змагар, які не баіцца ворага і заўсёды шукае сутычкі з ім, мусіць або перамагчы ворага, або згінуць на полі бою. І самая прыгажэйшая сьмерць — згінуць у змаганьні за свае ідэалы, каб яны жылі і трыумфавалі.



Гэткай сьмерцю героя загінуў вялікі сын Беларускага народу, Уладыслаў Казлоўскі. Выконваючы да апошняе хвіліны баёвае заданьне ідэялёгічнага змаганьня з усімі ворагамі Беларускага народу, як рэдактар цэнтральнае «Беларускае Газэты» у Менску, ён быў 13 лістапада 1943 году подла забіты злачыннаю бандыцкаю рукою. Вялікі змагар паў на полі бою, ня выпусьціўшы з рукі свае зброі, якая заўсёды гэтак дамэтна біла усіх нашых ворагаў і зладумцаў. Загад службы для Бацькаўшчыны ён выканаў аж да апошняе хвіліны і за свае ідэалы ахвяраваў сваё найдаражэйшае — жыцьцё.

## ЯГОНЫ ЖЫЦЬЦЁВЫ ШЛЯХ

Уладыслаў Казлоўскі нарадзіўся 29 ліпеня 1896 году у вёсцы Залесьсе Сакольскага павету Горадзеншчыны. Ягоныя бацькі — працоўныя сяляне. Пачаткавую і сярэднюю асьвету атрымаў у Саколцы і Горадні, а ад 1916 да 1919 году вучыўся у каталіцкай духоўнай сэмінарыі у Вільні, выпрабляючыся адначасна на сьведамага і актыўнага нацыяналістага.

У 1919 годзе ён пакінуў сэмінарыю, каб уступіць у беларускае войска. Але каб лепш выкарыстаць час, покуль адбывалася рэгістрацыя дабраахвотнікаў, ён запісаўся на курсы беларускіх настаўнікаў пры Цэнтральнай Радзе Віленшчыны і Горадзеншчыны, а пасьля прыступіў да арганізацыі беларускага школьніцтва у Сакольскім павеце.

У канцы 1919 году, калі у Менску заснавалася Беларуская Вайсковая Камісія, Казлоўскі прыехаў сюды і прыняў удзел у Беларускім Зьезьдзе, як прадстаўнік Беларускае Сялянскае Партыі. У 1920 годзе працуе у Ігуменскім павеце за інструктара Часовага Беларускага Нацыянальнага Камітэту у Менску, у галіне арганізацыі нацыянальнага і каапэратыўнага жыцьця. У траўні г. г. Беларуская Вайсковая Камісія высылаець яго у школу падхарунжых у Варшаву, дзе быў створаны беларускі зьвяз. Пасьля сканчэньня курсу ён быў вызначаны за інструктара у 1-шы батальлён беларускіх стральцоў, які быў ужо эвакуяваны з Менску у Лодзь. Пасьля ліквідацыі беларускага войска быў пераведзены у польскую армію у якасьці актыўнага афіцэра.

Зьяўляючыся паручнікам польскай арміі, У. Казлоўскі ня спыняе трымаць сувязь з беларускім нацыянальным рухам, піша у нацыянальна-незалежніцкую прэсу і выдае брашуры з галіны фізычнага узгадаваньня.

У сувязі з сваёй беларускай працай быў вымушаны у 1930 годзе выступіць з войска і жыў на скромненькай эмэрытуры, з якое «нельга было ні пражыць, ні памерці», як казаў нябожчык. Пераехаўшы у Вільню, ён цяпер увесь аддаецца грамадзка-палітычнай і пісьменьніцкай працы. Арганізаваў гімнастычна-спартовае таварыства «Гайсак», якое ня было аднак залегалезавана палякамі, выдаў некалькі пісьменьніцкіх працаў і займаў шэраг паважных пасадаў у беларускіх арганізацыях у Вільні: быў за сакратара Беларускага Нацыянальнага Камітэту і за сакратара Цэнтральнага Ураду Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, ды абыймаў яшчэ колькі пасадаў.

Галоўная праца ягонага жыцьця ад 1933 году — гэта беларускі нацыянал-сацыя-

лістычны рух, які ён заснаваў і пашыраў супольна з сьв. пам. Фабіянам Акінчыцам, як ягоны верны сябра і памочнік. Уладыслаў Казлоўскі быў за сакратара Беларускае Нацыянал-Сацыялістычнае партыі, а ад 15 сьнежня 1936 — за ейнага старшыню.

Ад 1933 да 1937 У. Казлоўскі зьяўляўся выдаўцом і галоўным рэдактарам «Новага Шляху», органу беларускага нацыянал-сацыялістычнага руху, за што меў шмат прыкрасьцяў і быў колькі разоў пад судом і арыштам.

Як толькі Менск быў вызвалены ад бальшавікоў, У. Казлоўскі адзін з першых прыехаў сюды, каб прыняць адказнае становішча рэдактара перш. «Менскай», а пасьля «Беларускае Газэты». На гэтым становішчы ён працаваў больш за два гады і карыстаўся вялікай папулярнасьцю.

Поўны творчай энэргіі, вялікіх думак і пляпаў на будучыню, ён адыйшоў ад нас 13 лістапада 1943 г., передчасна забраны подлаю бандыцкаю рукою. Пахаваны 22 лістапада на менскіх каталіцкіх могілках на Кальварыі.

# АБЛІЧЧА ЧАЛАВЕКА—ЗМАГАРА

У васобе Уладыслава Казлоўскага мы страцілі аднаго з найлепшых сыноў Беларускага народу. Нішто больш, як толькі ахвярны патрыятызм, гарачая любасьць да свайго народу, няўтомная праца і змаганьне для лепшае будучыні дарагое Бацькаўшчыны не зьяўляліся матывамі ягонага працавітага жыцьця. Ён быў прыкладам ідэйнасьці і няўтомнага служэньня вялікай ідэі ня словамі, а чынамі, а ягонай ідэяй была вольная і шчасьлівая Новая Беларусь. Калі хто-небудзь сяньня хацеў-бы кінуць камок гразі на сьветлую памяць вялікага сына Беларускага народу, дык ніхто апрача бальшавікоў і іхных паслугачоў, яўных і сукрытых ворагаў беларускае справы, якіх ён ненавідзеў і якія яго ненавідзелі, не асьмеліцца на гэта. І старэйшыя, і моладзь, згуртаваная у СБМ, шануюць у Казлоўскім чалавека — гэроя, змагара за ідэю.

Запрацаваўшыся, ён забыўся на сваё асабістае жыцьцё. Ня меў шчасьця пакаштаваць сямейнае цішыні. Ажаніўшыся у 1939 годзе, ён пражыў з жонкаю Алёнай усяго пару месяцаў, бо яго зноў забрала грамадзкая праца. Часта прыходзілася слухаць як сумаваў па сваёй любай двухгадовай дачушцы Марыльцы, але праца не адпускала яго з Менску.

Зьдзіўляюча просты і скромны, сяброўскі і аж занадта даверлівы, заўсёды пагодны і оптымістычны, гарачы і упорысты, сьмелы і самастойны у думках — ён ішоў заўсёды за голасам свайго сэрца, якое кахала Маці-Беларусь. Як вайсковец, ён не пашкадаваў для яе свае пасады, а будучы эмэрытам, ён сваю скромную пэнсыю выдаваў на грамадзка-палітычную і пісьменьніцка-выдавецкую працу.

Поўны кіпучай энэргіі і веры у свае сілы, Ул. Казлоўскі бачыў у оптымізьме жыцьцёвую сілу народу і таніў вечных «ныцікаў» і «малькантэнтаў»:

«Пэсымізм — найгоршы тормаз для дзеяньня; для грамадзкае працы — балючая і маральная хвароба. Пэсымісты ня толькі абрыдае жыцьцё самому сабе, але зьяўляецца, як-бы сказаць, сабатажнікам духовых парываў людзей таго асяродзьдзя, у якім ён знаходзіцца.

Такі чалавек ніколі нічым не захопіцца, ніколі нічога не пахваліць, усё крытыкуець, а не дае свайго.

Малькантэнт абрыдае жыцьцё сабе і другім, а у грамадзкай працы ён ня толькі не карысны, але проста шкодны, тады як здаровы оптымізм зьяўляецца жыцьцятворчым дзейнікам і асалодай жыцьця.

Толькі здаровы оптымізм, вера у лепшую будучыню, дасьць нам, беларусам, духовую і фізычную сілу у змаганьні за вызваленьне нашага працоўнага Беларускага народу». (Оптымізм як жыцьцёвая сіла, «Новы Шлях» № 8 (10) ад 20 сьнежня 1934).

Працуючы на адказным і небясьпечным становішчы рэдактара «Беларускае Газэты», Казлоўскі спадзяваўся трагічнае сьмерці, але ён быў жаўнерам і сьмерці не баяўся. Вось ягоныя собскія, глыбока узрушаючыя словы, якія ён прысьвяціў быў свайму сябру Альбіну Стэповічу (+1934):

«Ідэя не баіцца сьмерці, яна несьмяротная. Сьмерць замацоўвае ідэю, лучыць жывых з мёртвымі. З тваёй сьмерцяй, дарагі таварыш, мы узялі на сябе абавязак і перад табой, абавязак пераможнае барацьбы за волю Беларускае нацыі і дабрабыт ейных працоўных сяброў. У гэтым змаганьні мы ня будзем баяцца ніякіх злыбедаў, ні мукаў, ні сьмерці. Гэта кажам мы табе, таварыш, на вечнае разьвітаньне, і просім сілу, якая цябе забрала без пары, каб яна не прыходзіла да нас тады, калі мы будзем у мяккім ложу сямейнага дому, але каб пазволіла нам памерці у змаганьні за вызваленьне гаротнага Беларускага народу» (вечн. пам. Альбін Стэповіч (1894—1934), «Новы Шлях» № 1 (11) ад 10 сакавіка 1935).

Як ён прадбачыў, так і сталася. Абаіх іх, сяброў, прыяцеляў і змагароў за адну ідэю, Фабіяна Акінчыца і Уладыслава Казлоўскага забрала яна, сьмерць герояў, сялета, як бясстрашных жаўнераў — на полі бою, у змаганьні за свае ідэалы... Але не загінулі, бо жывець іхная справа!

# ЯГОНАЯ СПАДЧЫНА

Уладыслаў Казлоўскі пакінуў пасьля сябе паважную і вельмі разнастайную пісьменьніцка-журналістычную спадчыну.

Сьляды свае зацікаўленасьці да спартовазгадавальнае працы ён пакінуў у сваіх дзьвюх брашурах: «фізычнае выхаваньне грамадзянства» (1927) і «аб фізычным выхаваньні у беларусаў» (1928). Абедзьве маюць і

сяньня вялікую вартасьць і заслугоўваюць на перадрук. Яны павінны увайсці у бібліятэку Саюзу Беларускае Моладзі, як каштоўныя кніжачкі.

Сабраны сабою песенны фалькльёр свайго павету Казлоўскі выдаў у брашуры «Беларускія народныя песьні з Сакольскага павету» (1930). З яе можна пераканацца, што гэткі далёка высунуты на захад павет, як Сакольскі, карыстаецца добрай беларускай мовай і пяе самыя прыгожыя беларускія песьні.

Заслугоўвае на увагу патрыятычна-прапагандавая паэмка «Плач беларускае Старонкі-Маткі па дзетках сваіх рэнэгатах» (1930). У ёй ён гэтак зварачаецца да тых беларусаў, якія выракліся свайго народу і Бацькаўшчыны:

«Вырадкі рэнэгаты! Хай адзавецца у вас сыноўская душа, хай зварушыцца вашае закамянелае сэрца!

Мы, верныя сыны няшчаснай Маці-Беларусі, што церпім разам з ёю розныя мукі і зьдзекі, заклікаем вас да хаты. Прыдзеце да свае Роднае Маці! Ня мучце яе далей, не раньце ейнае матчынае душы і ейнага добрага сэрца!

Вашая родная Маці-Беларусь забывае прошлае, даруе вам ганебныя зьдзекі над ёй і трымае распасьцёртыя рукі, каб абняць вас, марнатраўных сыноў, і усьцешыцца з вашага звароту.

Аб тым, як Уладыслаў Казлоўскі разумеў дачыненьні дваіх людзей, у чым ён бачыў здаровы сэнс людзкога жыцьця, гаворыць ягоны вершаваны раман «Путы каханьня» (1932), у якім ёсьць шмат з ягоных асабістых перажываньняў.

На цьвёрды шлях «змаганскае працы і творчасьці» Казлоўскі узыйшоў разам з стварэньнем Беларускага нацыянал-сацыялістычнага актыву. У часапісе «Новы Шлях» ён пісаў публіцыстычныя артыкулы, вершы і апавяданьні.

Ягонае разуменьне беларускага нацыянал-сацыялізму найлепей ілюструюць наступныя урыўкі з артыкулу «Што нас уратуе»:

«Нацыя зьяўляецца вытварам фізычнага і духовага змаганьня людзкое грамады на фоне эканамічных і псыхалёгічных розьніцаў у межах свае расы, якая зноў зьяўляецца вытварам кліматычных абставінаў. Здаецца, няма выпадку, каб без змаганьня стварылася якая-небудзь незалежная нацыя...

Сяньня Беларускі народ увайшоў у эпоху жывейшага змаганьня за адраджэньне скансалідаванае незалежнае нацыі.

Абставіны сучаснай эпохі змушаюць весьці змаганьне на два фронты: нацыянальны і сацыялістычны.

Кліч нацыянальнага фронту — незалежнасьць, непадзельнасьць — гэта кліч не здэгэнэраванага пацыфізму, а кліч здаровае, прыроднае барацьбы за нацыянальнае жыцьцё, за сваё існаваньне.

Кліч сацыялістычнага фронту — палепшыць жыцьцё, даць дабрабыт усяму Беларускаму народу...

Сказ, што сацыялізм выключае нацыяналізм, карысны кажнаму сільнаму, сьведамаму сваіх мэтаў народу, які не баіцца асыміляцыі, бо ведае, што толькі ён будзе сілай прыцягваючай, сілай асымілюючай, а сам ня будзе угнаеньнем для сільнейшых. Для Беларускага народу, пакуль што, некарысныя міжнародныя марксоўскія ідэі, бо ён яшчэ не зьяўляецца нацыянальна сільным. Кормячы свой народ ідэямі міжнароднага сацыялізму, мы не падымем яго на п'едэстал нацыянальнае гордасьці. А у міжнародным пралетарскім моры беларускія масы згубілі-б свой нацыянальны твар. Міжнароднасьць сацыялізму карысная для народу з магутнымі нацыянальнымі традыцыямі, з сільным расава-нацыянальным духам...

Такія клічы, як адраджэньне Беларускага народу, ягоная незалежнасьць, зьяўляюцца для марксістых рэчай непатрэбнай, нават шкоднай...

Як бачым, марксоўскі сацыялізм ня толькі не уратуе нас ад дэнацыяналізацыі, але яшчэ можа паскорыць яе. Каб гэтага ня было, нам трэба мець свой уласны сацыялізм, беларускі, які, наўсуперак міжнароднаму, які выключае нацыяналізм, пазволіць нам супроцьпаставіць дэнацыяналізацыі свой нацыяналізм... Беларускі нацыяналізм для нас неабходны і носіць характар абаронны...

Беларус сьпярша павінен стацца моцным нацыянальна, гордым са свае нацыі, а пасьля — сацыялістым, і то беларускім, а не марксоўскім.

Толькі свой сацыялізм нас уратуе, бо марксоўскі зьяўляецца ворагам нацыяналізму. Праўда, ён пакідае кажнаму народу ягоную нацыянальную форму, але адбірае ягоную нацыянальную душу, пакідаючы толькі форму, як бязжыцьцёвую вопратку. Наш народ нацыянальную вопратку — мову мае, але яшчэ ня мае нацыянальнае душы, супроць якой якраз выступае марксоўскі сацыялізм...

Дык супроць чужога нацыяналізму — свой нацыяналізм! Супроць капіталізму — свой сацыялізм!» (Новы Шлях» № 2 ад 25 сьнежня 1933 г.).

У моцным і прыгожым празаічным урыўку «Прачхніся, беларусе!» і вершу «Чын» чуецца моцны заклік да працы і чыну.

Супроць «няволі, зьдзеку і аблуды», г. зн. прыгнёту беларусаў у Польшчы, ён кідае свой моцны «Пратэст» і хоча нават быць сьветкай крыўды свайго народу і па сьмерці:

«Калі памру, дык мой дух паўстане,
зямлю пратэстам запаліць,
маланкай злыдням у вочы гляне,
громам усіх іх паваліць.
Панад Краінай будзе лятаці—
пратэставаці!»

З урыўка «Ня у нас вясна» вее ціхі сум, што Беларускі народ яшчэ нясьведамы, не выяўляе актыўнасьці і салідарнасьці. Але і гэта — «сум для будучае радасьці»..

У апавяданьні «Волат» алегарычна расказаная гісторыя і лёс Беларускага народу і паказаны шлях у будучыню: змаганьне за сваю собскую волю.

Усе патрыятычныя вершы Казлоўскага моцна прасякнутыя упэўненасьцю, што наш

шлях у будучыню — толькі праца і змаганьне для свае волі, зьмешчаныя у зборніку «Шляхам змаганьня» (1935). Некаторыя з іх вельмі моцныя і высока мастацкія. Варта, каб гэтыя вершы сталіся собскасьцяй і улюбёным чытаньнем нашае моладзі, згуртаванай у СБМ. Ужо цяпер сталіся папулярнымі песьні на словы Казлоўскага: «Мы бойкая моладзь» і «Хай нам жыве Беларусь дарагая».

Ня выйшла з друку аповесьць з жыцьця беларускіх каталікоў «Усьведамленьне», якая з матар'яльных прычынаў засталася толькі у матрыцах.

Наведаўшы вясною 1943 г. Нямеччыну, Уладыслаў Казлоўскі напісаў шчырыя і вельмі цікавыя уражаньні, якія назваў «Пераканальнае падарожжа». Яны надрукаваныя у «Беларускай Газэце», а варта, каб пабачылі сьвет асобным выданьнем.

## ТЭСТАМЭНТ ДЛЯ НАРОДУ

Але найбольш каштоўнае з працы і творчасьці Уладыслава Казлоўскага — гэта каля 90 перадавіцаў і артыкулаў у «Беларускай Газэце», апублікаваныя у 1942—1943 г. г. У іх Казлоўскі паказваў Беларускаму народу шлях у будучыню, будзіў нацыянальную сьведамасьць, прышчапляў адпорнасьць на бальшавізм і паказваў небясьпеку расейскіх і польскіх уплываў. Заўсёды сьвежыя, заўсёды моцныя і арыгінальныя перадавіцы былі насычаныя шчырай ідэйнасьцяй, любасьцяй да Беларускага народу і палітычнай трэзвасьцяй і розумам. Сваю папулярнасьць «Беларуская Газэта» мела у значнай меры дзякуючы ягоным перадавіцам.

Казлоўскі бачыў шлях Беларускага народу да вольнай і шчасьлівай будучыні толькі у супрацоўніцтве з Нямеччынай і уяўляў сабе Беларусь толькі у рамках Новай Эўропы. Бічуючы пасыўнасьць, трусасьць, гультайства і апартунізм, ён быў прыкладам і вузорам тае няўтомнасьці і мужнасьці, якіх дамагаўся ад свайго народу.

Усе пытаньні і галіны жыцьця: пытаньні мовы, рэлігійныя справы, праблема нацыянальнае сьведамасьці і дачыненьняў да г. зв. «прыяцеляў» і псэўда-беларусаў, пагляд на разуменьне працы, на сям'ю і жанімства, справа арганізацыі грамадзянства і узгадаваньня моладзі — усё цікавіць Казлоўскага і усё гэта ён хоча пераказаць Беларускаму народу. Ягоныя артыкулы — гэта багаты уклад у нашую публіцыстыку, абвеяны глыбокім пачуцьцём патрыятызму і зразуменьня духу сучаснай эпохі.

Асабліва вялікую сымпатыю меў Уладыслаў Казлоўскі да моладзі. Заўсёды бываў гасьцём у Саюзе Беларускае Моладзі і пісаў свае зацемкі (пад псэўдонімам З. Бакун) аб нашых курсах, лагерах і экскурсіях. Ад самага пачатку існаваньня СБМ ён пакладаў на новую арганізацыю вялікую надзею і часта гаварыў, што быў-бы шчасьлівы, калі-б сам быў малады і мог працаваць для моладзі.

22 чырвеня 1943 г. ён вітаў у сваім артыкуле арганізацыю моладзі і адказаў нам, маладым, свой тэстамэнт:

«Нясеце, маладыя сакалы, наш беларускі сьцяг! Трымайце яго горда, ня бойцеся бураў, віхураў, — вы-ж дзеці працоўнае сям'і. Нясеце на сваіх сьцягох долю сваіх братоў, долю усяго свайго народу. Якімі будзеце вы, такой будзе і нашая будучыня, будучыня усяго Беларускага народу». (Вітаем нашую моладзь, «Беларуская Газэта» № 46 (164) ад 22. 06. 1943).

Якія вялікія і шчырыя словы. Сумна робіцца і мне, ягонаму асабістаму прыяцелю і бліжэйшаму супрацоўніку, калі чытаю сяньня наступныя ягоныя словы:

«Вялікай падзеяй зьяўляецца арганізацыя Саюзу Беларускае Моладзі. Вызначэньнем за Шэфа Кіраўнічага Штабу гэтай арганізацыі маладога беларускага актывістага Міхала Ганько Гэнэральны Камісар яшчэ раз пацьвердзіў шчырую волю дапамагаць Беларускаму народу стаць на свае собскія ногі.

Нававызначаны шэф СБМ зьяўляецца сынам свайго народу, сынам беларускага селяніна з-пад Маладэчна. Гэта здольны энэргічны хлапец, энтузіясты Новае Беларусі і беларуска-нямецкага супрацоўніцтва.

Толькі нейкія прыраджоныя «ныцікі» з эгаістычна-амбіцыйных меркаваньняў маглі-б тут ставіць нейкае «але». Беларуская моладзь — на добрай дарозе. А значыцца, на добрай дарозе і будучыня Беларусі». (Кладуцца падваліны, «Беларуская Газэта» № 49 (167) ад 3 ліпеня 1943).

Добра разумеючы значэньне СБМ, як школы нацыянальнага узгадаваньня беларускае моладзі, Казлоўскі часта заклікаў, каб ня было ніводнага беларускага юнака, ніводнае беларускае юначкі вонках радоў СБМ, бо толькі «у арганізацыі сіла».

Сьвятыя словы! Толькі арганізаванасьць абароніць нас ад нашых ворагаў, уратуе нас ад нашых злыдняў і дазволіць нам стаць на собскія ногі. Гэта мы прыймаем як тэстамэнт Ул. Казлоўскага і будзем выконваць ягоны загад: «Вышэй галаву!»

## БУДЗЕ ЖЫЦЬ ВЕЧНА

Верны сын Беларускага народу, самаахвярны працаўнік і мужны змагар за вольную Бацькаўшчыну, памёр як жаўнер на становішчы, не дачакаўшыся блізкой ужо перамогі. Але не загінуў.

Ягоная сьветлая памяць будзе жыць у Беларускім народзе, а ягонае імя будзе запісанае на сьцягох Саюзу Беларускае Моладзі. Мы, моладзь — гаспадары будучыні, мы здабудзем яе, хоць-бы грудзьмі трэба было да яе прабівацца праз дзікі чартапалох і крывавую завею. За кроў Акінчыца, Казлоўскага, Пя-

цюкевіча, Саковіча, Маракова, Кіслага, Іваноўскага і усіх іншых, каму адабрала жыцьцё злачынная бандыцкая рука, за мінавае злачынства у Менскім Тэатры у дзень заснаваньня нашай арганізацыі, за страту нашага прыяцеля і апякуна гаўляйтара Вільгэльма Кубэ — мы крывава адпомсьцім! З іхнае крыві вырасьце наша воля, наш дух, наша сіла.

«Сьмерць замацоўвае ідэю, лучыць жывых з мёртвымі». Ягоная сьмерць не разьдзяліла, а яшчэ мацней злучыла нас.

Імя Уладыслава Казлоўскага навекі зьвязанае з намі. Ён будзе жыць вечна, бо быў змагаром за ідэю, а «ідэя не баіцца сьмерці, яна несьмяротная».

Мы, маладыя, пойдзем далей працаваць і змагацца за нашую вялікую ідэю і не спачнём, аж покуль не здабудзем свае волі і будучыні, а тады, у дзень перамогі, з трыумфам унясём у парогі вольнае Беларусі наш белчырвона-белы крывіцкі сьцяг, а на ім будзе ягонае сьветлае імя і наш пераможны кліч: Жыве Беларусь!

---

*В. Аганёк*

# ГЕРОЮ НА РАЗЬВІТАНЬНЕ

**Прысьвечана У. Казлоўскаму**

Сьпі пад курганам герояў,
сьпі, Працаўнік і Змагар!
Несены верна Табою
ціха схіліўся штандар...

Сьветлы Твой дух адлятае
вечнасьці межаў шукаць,
з шляху яшчэ раз кідае:
сьцяг свой высока трымаць!

Не, не пахілім галоваў,
не уцячом із радоў,—
мейсца Тваё зойме новы,
помсьцім ахвярную кроў!

З кажнае кроплі паўстане
сіла і воля, як сталь,
кажны з нас волатам стане,
сэрцаў ня зломіць нам жаль!

Моцнай узяты рукою
горда ўзьвіваецца сьцяг:
Сьпі пад курганам герояў,—
Твой мы працягваем шлях!

---

# З ЯГОНАЕ СПАДЧЫНЫ

## ПРАЧХНІСЯ, БЕЛАРУСЕ!

Прачхніся, беларусе!

Звалі з сябе вяковую, маной сашытую дзяругу.

Страсі стагодні пыл, што засьцілае твае вочы.

Падніміся!

Глянь на сваё, ліхазельлем парослае поле. Глянь і паслухай, як прагавіта дзяруцца суседзі, што, карыстаючыся сном тваім, гаруць аблудай тваю Зямліцу і засяваюць маной твае родныя гоні.

Паслухай!

Якім страхацьцём адчуваецца рогат сытых тваёй цемнатою суседзяў!..

Дзеці твае плачуць.

Плачуць над сваёй нядоляй, песьцяць мазалямі сваю Родную Зямліцу і просяць, каб дала ім кусочак чорнага хлеба.

Яна—Зямліца—сама у нядолі.

На яе пасягаюць прагавітыя рукі чужынцаў і засяваюць зярняты пагана-зманлівае зрады.

Дык устань, гаспадару!

Устань, браце!

Памажы працаваць тым, што прачхнуліся, бо прагавітыя суседзі сьмяюцца, што нас мала на родных гонях, што мы ня умеем, што ня здольныя гаспадарыць на сваёй Зямельцы.

Прачхніся, беларусе!

Звалі з сябе камень цемнаты. Глянь зрокам вольных прадзедаў-волатаў, зрокам, пранікаючым у тайніцы руінаў, раскрываючым агіду стагодзьдзяў, заглядаючым у курганы, раскіданыя па усёй нашай Зямліцы.

Глянь вокам арлінным!

Вокам, што ня сплушчыцца ад зманлівага бліску шляхоцка-панскае справядлівасьці.

Ідзі!

Гары і засявай потам аблітае поле. Працуй і сьпявай вольныя песьні.

Сьпявай!

Каб зашумелі рэхам свабоды беларускія непраходныя пушчы; каб усьцешыліся раскіданыя па курганох беларускае Зямліцы прадзедаў косьці.
І засявай свае гоні!

Засявай зярном справядлівасьці, каб яно вырасла і заглушыла ману, каб пракарміла тваіх працоўных унукаў і дало ім сілу і бесперарыўную бадзёрасьць, каб яны ніколі не заснулі, а цягнулі пачатую табою вольную, працоўную, адраджэнскую беларускую песьню!

**Казлоўшчык**

(«Новы Шлях», № 2 ад 25. XII. 1933 г.)

# ВІТАЕМ НАШУЮ МОЛАДЗЬ

Дзяржаўны Міністар занятых Усходніх земляў на прапанову Гэнэральнага Камісара Беларусі даў згоду на утварэньне арганізацыі беларускае моладзі.

Гэтая гістарычная падзея усьцешыла ня толькі беларускую моладзь, але і усё беларускае грамадзянства.

Беларуская моладзь арганізуецца. Хутка пабачым ейныя стройныя шэрагі, пачуем бадзёрыя ейныя песьні. Блеск надзейных вачэй нашае моладзі разгоніць усю стагодную цемру, што спавіла нашую старонку.

Уцякайце з дарогі, усе няробы, усе плаксы, усе ворагі Новае Беларусі! Дайце дарогу нашай моладзі — будучыні Беларускага народу! Яна стае у рады, каб ісьці да сьветлага заўтра побач із моладзяй усіх адроджаных народаў Эўропы і несьці паходню, якую запаліў Правадыр гэтай Эўропы, Адольф Гітлер.

Беларуская моладзь аддаўна хацела арганізавацц, але ёй не давалі гэтага ворагі Беларусі. У 1920—21 г. г. у Менску, пры беларускім клюбе «Беларуская Хатка» (на колішнім «Конным пляцы») заснавалася і пэўны час існавала арганізацыя беларускае нацыянальна-сьведамае моладзі — пад тым самым назовам, што і тая, якая паўстае сяньня — «Саюз Беларускае Моладзі». Але бальшавікі хутка зьліквідавалі яе, як «непатрэбны і шкодны паралелізм адзінай арганізацыі моладзі» — свайму жыдоўскаму камсамолу. У гэты камсамол яны і заганялі беларускую моладзь, каб там маральна калечыць маладыя беларускія душы, каб вырваць з іх любасьць да Бацькаўшчыны і прышчапіць нянавісьць паміж паасобнымі пластамі свайго народу у форме гэтак званага клясавага змаганьня, патрэбнага сусьветнаму жыдоўству дзеля ажыцьцяўленьня сваіх нацыяналістычных мэтаў панаваньня над сьветам. Ніводзін сябра разагнанага бальшавікамі «Саюзу Беларускае Моладзі» не пайшоў тады у гэты камсамол. Беларускія юнакі пачалі шукаць выхаду для арганізацыі у нелегальных процібальшавіцкіх фармаваньнях. Так, у 1922—23 г. паўстае спроба арганізаваць нелегальную «Крывічанскую Юнацкую Грамаду», але, сустрэўшыся з расхаладжвальным настаўленьнем старэйшых беларускіх дзеячоў, якія тады бачаць адзінае выйсьце у легальным і лёяльным супрацоўніцтве з бальшавікамі, яна замірае. І усё-ж не замірае рух беларускае моладзі за стварэньне сваёй арганізацыі. Ён выліваецца і у легальных формах, пераважна у выглядзе дазволеных бальшавікамі літаратурных арганізацыяў («Маладняк», пазьней «Узвышша»), і асабліва у нелегальных (г. зв. «лістападаўскі рух» на Случчыне — пераважна рух моладзі, група «Саюз Вызваленьня Беларусі» у Расьнянскім раёне былое БССР, якая ахапіла цэлую школу—сямёхгодку, арганізацыя «альтруістых» на Гомельшчыне і інш.). Ці мала удзельнікаў і легальных, і нелегальных арганізацыяў беларускае моладзі пайшло на бальшавіцкае выгнаньне, у лагеры, ато і зусім паплацілася маладым жыцьцём!

Прабавала арганізавацца і беларуская моладзь у Заходняй Беларусі, пад панска-польскім прыгнётам.

У 1930 г. віленская беларуская моладзь хацела заснаваць гімнастычна-спортавае таварыства «Гайсак». Тагачасныя польскія улады адмовілі зарэгістраваць гэтае таварыства і гэтым самым забаранілі ягонае дзеяньне. Таго самага году беларуская моладзь хацела стварыць сваю арганізацыю пад назовам — беларуская арганізацыя моладзі «Будучыня». Але доля гэтае арганізацыі была такая самая, як і доля «Гайсака». І польскія паны не хацелі, каб нашая моладзь гуртавалася.

Але вось ужо два гады, як жаўнеры вялікага Правадыра Эўропы Адольфа Гітлера вызвалілі наш край ад ворагаў—і ад бальшавікоў, і ад палякоў,—і далі магчымасьць будаваць нашую Бацькаўшчыну Беларусь, ды нарэшце і арганізавацца ейнай моладзі.

Беларуская моладзь уваходзіць арганізавана у рады эўрапэйскае моладзі, як раўнапраўны сябра сярод іншых народаў Эўропы. Гэткім парадкам нашая моладзь першай арганізавана увойдзець ад нашага народу у Новую Эўропу. Гэтак нашая моладзь заклікае і нас да працы і змаганьня у вадбудове свае каханае Бацькаўшчыны Беларусі.

Мы, старэйшыя, сяньня вітаем цябе, нашая моладзь — гордасьць і будучыня нашая.

Нясеце, маладыя сакалы, наш беларускі сьцяг! Трымайце яго горда! Ня бойцеся бураў, віхураў,— вы-ж дзеці працоўнае сям'і. Нясеце на сваіх сьцягох долю сваіх братоў, долю усяго свайго народу.

Якімі будзеце вы, такой будзе і нашая будучыня, будучыня усяго Беларускага народу. Вітаем вас ад шчырага сэрца і перадаём вам спадчыну, якую мы атрымалі у працы і змаганьні. Гэтую спадчыну мы таксама узялі ад сваіх бацькоў, якія здабывалі яе у муках расейскіх і польскіх турмаў, у крывавым поце прымусовых работаў на Сібіры і беламорскіх каналах. А ім дасталася яна ад нашых дзядоў, якія аддавалі свае галовы на царскія шыбеніцы, падстаўлялі свае целы пад царскія нагайкі і мучыліся у лёхах расейскіх царскіх турмаў. Мы перадаём вам спадчыну Кастусёў Каліноўскіх, Грынявіцкіх, Ігнатоўскіх, Гаруноў, Лёсікаў, спадчыну, азначаную сьвежай яшчэ магілай Фабіяна Акінчыца, і спадчыну шмат-шмат іншых змагароў за Беларусь, якія крывёй і ахвярнай сваёй сьмерцяй клалі падваліны пад будову нашага беларускага дому. Вы, моладзь, павінны цяпер кажны палажыць сваю цэглу, каб дабудаваць дом гэты моцным і прыгожым. Мы усе разам з вамі цешымся, што дачакаліся лепшых часоў, калі і мы і вы можам свабодна працаваць на карысьць Бацькаўшчыны, калі любасьць да Беларусі, ейнае мовы, не разглядаецца як злачынства, а як сьвяты абавязак, пахвальная азнака кажнага беларуса.

Працуй і змагайся, моладзь. Пазнавай Беларусь. Хай ня будзе ніводнага кутка у нашым краі, дзе-б ні было сьцежак, пратаптаных нагамі нашае моладзі. Наш край ускрыты крыжамі нашых бацькоў і сьвежымі магіламі тых, што нядаўна палажылі сваё жыцьцё у гэтай вайне за вызваленьне Беларусі. Тут і магілы нямецкіх жаўнераў, жаўнераў вялікага Правадыра Эўропы і нашага вызвольніка. Ці-ж не належыцца вялікая удзячнасьць гэтым жаўнерам за іхны гераізм і ахвярную сьмерць? Бо-ж іхная сьмерць прынесла нам свабоду і дала вам, моладзі, магчымасьць з узьнятым нацыянальным сьцягам ісьці наперад і змагацца за будучыню свае Радзімы.

Мы заклікаем сяньня нашую беларускую моладзь, і нашая беларуская моладзь заклікае нас.

Ніхто ня можа стаяць з боку. Заклік нашае моладзі—гэта заклік нашае Бацькаўшчыны, гэта кліч нашага народу. Праз моладзь гаворыць да нас нашая будучыня. Яна бадзёрым і юнацкім голасам б'ецць у нашыя сэрцы і будзе біцца у сэрцах тых, што нас заступяць і будуць весьці далей жыцьцё нашага народу, бо моладзь — гэта жыцьцё і надзея, гэта праца і зьмест будучыні.

Усё беларускае грамадзянства павінна згуртавацца для падтрыманьня і апекі свае моладзі. Тут не павінна быць ніякага «але», ніякае засьцярогі.

Толькі вораг Беларускага народу можа быць ворагам арганізаванае беларускае моладзі.

Дык уздымай-жа, беларуская моладзь, свой народны сьцяг, запальвай паходні аптымізму і з імі ідзі праз усю нашую Радзіму. Будзі тых, што яшчэ сьпяць, агнём сваіх думак сьвяці ім у вочы, хай устаюць і бяруцца да работы, каб разам з табой несьці сьцяг волі і будаваць нашую дарагую Бацькаўшчыну—Беларусь.

*Ул. Казлоўскі*

(«Беларуская Газэта» № 46(164) ад 22. 06. 1943).

# У АРГАНІЗАЦЫІ—СІЛА

Адзін дубчык із мятлы лёгка пераламаць, бо ён слабы, але калі гэтыя дубчыкі зьвязаць разам у мятлу, дык пераламаць — ужо цяжэйшая справа. Гэтая відавочная праўда увайшла у прыказкавую народную мудрасьць.

І запраўды, у арганізацыі — сіла. Усё, што чалавек меў здабыць у змаганьні, ён здабыў гэта у арганізацыі, грамадой.

Арганізацыя — гэта прыродная зьява. Яна наглядаецца і у жыцьці жывёлаў. Слабейшыя стварэньні, якія маюць ворагаў, заўсёды лучацца у статкі — арганізуюцца. Чалавек — грамадзкае стварэньне. Увесь дабрабыт ягоны, культура і цывілізацыя — вынікі ягонай арганізацыі. Дзяржава — вышэйшая ступень арганізацыі народу.

Мы, беларусы, дагэтуль незарганізаваныя, таму і доля нашая такая, якую маем. Незарганізаванасьць нашая, праўда, паходзіла ня з нашае віны. Гэта было таму, што нашыя ворагі, дужэйшыя за нас, не дапушчалі да арганізацыі нашага народу, бо ведалі, што тады цяжка было-б уціскаць яго. Цяпер палажэньне зьмянілася. Беларускі народ дачакаўся таго гістарычнага часу, калі ворагі нашага адраджэньня абясьсіленыя, а вызвольнік—нямецкі народ — ня толькі што не перашкаджае, але і дапамагае нам арганізавацца. Прыкладам, мы цяпер, паміж іншага, маем дзьве агульна-беларускія арганізацыі: Беларуская Самапомач і Саюз Беларускае Моладзі. Самапомач павінна згуртаваць усіх беларусаў з мэтаю лягчэйшага перанясеньня цяжкасьцяў вайны і адбудовы Бацькаўшчыны. Саюз Беларускае Моладзі павінен згуртаваць усю нашую моладзь, каб яна арганізавана вучылася і тварыла лепшую будучыню свайго народу.

Ніводзін хлапец і дзяўчына не павінны быць вонках гэтай арганізацыі. Ніводзін выраслы беларус не павінен быць вонках арганізацыі Самапомачы. Працэнт удзелу у гэтых беларускіх арганізацыях будзе сьветчыць аб нашай грамадзкай дасьпеласьці, аб нашай здольнасьці ці няздольнасьці да самастойнага жыцьця.

Час несупакойны. Падзеі ляцяць маланкаю. Часамі прапушчэньне карыснае нам часіны можа адбіцца адмоўна на цэлыя дзясяткі гадоў.

Цяперашнія нашыя дзьве агульна-беларускія арганізацыі СБМ і БСП могуць адыйграць паважную ролю у палітычна-грамадзкім жыцьці нашага народу, або — паказаць нашую сьлімазарнасьць і жыцьцёвую мляўкасьць.

Беларуская Самапомач ужо арганізацыйна разбудавалася і памагае шмат каму у бядзе, але яна яшчэ ня можа пахваліцца агульна-беларускім удзелам у ёй. Гэта было дзякуючы розным нутраным прычынам, якія не дазвалялі гэтай арганізацыі дасягнуць свае галоўнае мэты. Нядаўна, аднак, адбылася рэарганізацыя Самапомачы і вызначэньне новага старшыні яе. Гэта павінна быць новым стымулам кажнаму беларусу, каб прычыніцца да разьвіцьця гэтай карыснай арганізацыі, да зьдзейсьненьня ейных галоўных мэтаў. Першым абавязкам кажнага беларуса у гэтым кірунку — быць сябрам гэтай арганізацыі.

Што да Саюзу Беларускае Моладзі, дык гэта арганізацыя ад самога пачатку выявіла сваю энэргію і жыцьцёвасьць. Ужо у сталіцы і у іншых шмат якіх гарадох нашае Бацькаўшчыны маршыруе з бадзёрымі песьнямі беларуская зарганізаваная моладзь. Надзея і радасьць уліваюцца у душу, калі чуеш гэтыя песьні нашае дарагое моладзі, калі бачыш ейныя стройныя шэрагі, ейны жыцьцярадасны, бадзёры выгляд.

Толькі у Саюзе Моладзі малады хлапец ці дзяўчына вырастуць на добрага беларуса—грамадзяніна свае Бацькаўшчыны.

Трэба, апрача усяго іншага, памятаць, што беларуская моладзь у сваёй арганізацыі вучыцца працаваць і узгадоўваецца у ваеннай дысцыпліне. Усё гэта канечна патрэбна нашаму народу, які, як ведама, можа лішне пацыфістычны, зашмат каму суступае з дарогі, замала маець арганізацыйнае дысцыпліны.

Вялікая-б была сіла нашага народу, калі-б ён меў сотні тысячаў зарганізаванае беларускае моладзі. Голас такой арганізацыі быў-бы важкі. З ім лічыліся-б усе, і гэтая самая арганізаваная моладзь, напэўна, не глядзела-б бязрадна на тое, што у нашых лясох валочацца бандыты, перашкаджаючы адбудове краю і забіваючы бязьвінных нашых сялянаў. Ужо цяпер, пабыўшы у навучальным асяродку беларускае моладзі, сэрца цешыцца і уліваецца у душу надзея на лепшую нашую будучыню.

— Твае цела і твой дух належыць твайму народу.

— Ты ня жыў, калі жыў толькі для сябе. Ты ня згінуў, калі памёр за Бацькаўшчыну.

— Хто гнецца і стогне, той ня варты, каб быць вялікім.—Вось некаторыя з тых сказаў, якія беларуская моладзь паўтарае у часе уздыманьня і апушчаньня свайго сьцягу.

— Любі свой народ і родны край над усё на сьвеце і цэлае сваё жыцьцё ахвяруй на службу для ягонага шчасьця і дабрабыту.

— Шануй сваю родную мову, родныя песьні і казкі і дбай аб разьвіцьці і пашырэньні беларускае культуры.

— Помні, што шчасьце, гонар і слава Бацькаўшчыны вышэй і даражэй за дабрабыт і жыцьцё адзінкі, і хто паміраe для Бацькаўшчыны, той вечна жывець у народзе. — Гэта тры з дзесяцёх запаветаў беларускага юнака і юначкі.

У такім дусе узгадаваная нашая моладзь створыць цуды, з такое моладзі Беларусь будзе ганарыцца, з такой моладзяй будзе шчасьлівая нашая будучыня.

Толькі той, хто ня хоча дабра нашай Бацькаўшчыне, хто хоча быць вечна парабкам, той ня будзе цешыцца з таго, што мы маем Саюз Беларускае Моладзі і не пашле сваіх дзяцей у гэтую арганізацыю. Кажны беларускі бацька і матка павінны парупіцца, каб іхныя дзеці выгадаваліся на добрых грамадзянаў свайго народу, а гэта будзе толькі тады, калі яны будуць сябрамі СБМ. Кажны хлапец і дзяўчына павінны з радасьцяй ісьці у сваю арганізацыю, бо там яны навучацца, як трэба любіць сваю Бацькаўшчыну, як трэба для яе працаваць, там яны здабудуць для самых сябе духовае і фізычнае здароўе.

Калі уся нашая моладзь будзе зарганізаваная у СБМ, а кажны выраслы беларус будзе сябрам БСП—зарганізуецца і увесь Беларускі народ. Ён станецца вялікаю сілай. З ім будуць усе лічыцца. Ён здабудзе пачэснае месца у сям'і вольных народаў Новай Эўропы.

**Ул. Казлоўскі**

(«Беларуская Газэта» № 58(176) ад 4. 08. 1943 г).

# ЧЫН

З жалем і плачам, у роспачы, зьдзеку,
У бездне няволі, прымусе, —
Нельга-жа жыці так чалавеку,—
Чын! — вось твой кліч, беларусе!

Ідзі супраць цемры, хітрай аблуды,
Супраць маны панаваньня.
Кліч хай імкнецца рэхам усюды:
Чын — камандзерам змаганьня!

Сьмейся са сьмерці, болі і страху,
Сьмела ідзі бяз хістаньня —
Рыцарам волі нельга мець жаху —
Чын кліча ўсіх да змаганьня!

Сэрцаў пажарам край свой абнімем,
У душах бадзёрасьць ўзьнясецца,
Воляй няўхільнай сьцяг свой паднімем, —
Вольна ён нам разаўецца!

**Ул. Казлоўшчык**

(«Новы Шлях», № 1(11) ад 10. III. 1935 г.)

# НЯ У НАС ВЯСНА

Вясна. Сонца. Жыцьцё. Радасьць...
Ня у нас, браты.
Зіма вяковая марозіць нашыя душы.
Страшная мяцеліца завявае нашыя палеткі, плюе людзям у вочы.
Людзі... Запужаныя. Не адважваюцца выставіць галавы з хаты. Сядзяць. Выглядаюць пагоды. Чакаюць перамены.
А бура вые, плюе, рагоча. Мароз цісьне...
Чорныя хмары навісьлі над усёй Краінай.
А над запужанымі крывіцкімі хатамі уецца у змаганьні дух Беларускае Нацыі. Ён пробуе разагнаць хмары, ходацца з мяцеліцай, б'ецца у сэрцах прыгнечанага народу, сьвеціць надзеяй у ягонай душы.
— Сонца!
Вясны!
Жыцьця!
Радасьці!—загаласіў у роспачы Беларускі народ.
— Ха, ха, ха! — зарагатала цемра:
Просяць!...
Жабракі!..
Рабы!...
Умеюць толькі плакаць і прасіць!..
Засыпаць іх сьнегам!
Закаваць навекі лёдам няволі!..
Няма цяпер мейсца мляўкасьці на сьвеце! Засумаваў дух Беларускае Нацыі, убачыўшы убогасьць волі свайго народу. Паймкнуўся з большым імпэтам па усёй Беларускай Краіне. Парываў сэрцы, запальваў у душах жыцьцёвую бадзёрасьць, дадаваў сілы волі, адвагі і урэшце вуснамі працоўнага народу загаласіў:
— Далоў страх!..
Выходзьма на родны прастор!..
Мы-ж дзеці працоўнае сям'і — што нам мароз, мяцеліца, хмары?
Аглядайма свае палеткі!
Рашчышчайма дарогі!
Працай і змаганьнем разаб'ём лядь векавое зімы!
Разгонім хмары!
Змусім сонца сьвяціць нам!
Змусім прыйсьці да нас вясну!
— Ого-го! — загудзеў сівер.
— Ві-і-дзі-іш ты і-іх! — засьвістала мяцеліца:
Ня просяць?!..
Ня плачуць?!..
Ня гнуцца?!..
Яны ужо не жабракі...
Не рабы...
У іх ёсьць моц духа.
Адступаць патроху — загадала зіма: вораг, аказываецца, моцны. Прыдзецца зьмякчыць.
Але з боем!
У змаганьні!
Дабраахвотна нічога!
Такі наш і усяго сьвету закон...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Вясна. Сонца. Жыцьцё. Радасьць...
Ня у нас, браты.
У нас — змаганьне за вясну.
У нас — змаганьне за сонца.
У нас — праца для будучага жыцьця.
У нас — сум для будучае радасьці.

**Ул. К.**

(«Новы Шлях»), № 3(13) ад 10.V. 1935 г.).

# ПРАТЭСТ

Супроць няволі, зьдзеку, аблуды,
Стогну пры сьценках — стральніцах;
Супроць бязпраўя, што гне усюды,
Енку у лёхах — вязьніцах;
Супроць тых жальбаў, што у вёсках чую —

Я пратастую!

Хай крык збалелы, што з сэрца рвецца,
Хмарамі неба закрые,
Хай злыдням громам у сумленьні б'ецца,
Віхрамі, бурай завые,
Хай у душах людзкіх бунтам бушуе,

Хай пратастуе!

Пратэст кідаю з душы збалелай
Проста тым злыдням у вочы,
Што ў прагавітасьці ашалелай
Зьнішчыць нас вельмі ахвочы,
Што абсьмяваюць справу сьвятую —

Я пратастую!

Калі памру, дык мой дух паўстане,
Зямлю пратэстам запаліць,
Маланкай злыдням у вочы гляне,
Громам усіх іх паваліць.
Панад Краінай будзе лятаці —

Пратаставаці.

У цёмных лёхах, пры шыбеніцах
Марай у вочы ён стане,
І з дзікай бурай, і у навальніцах
Злыдням у вочы загляне,
Іхня сумленьне, каб каваці —

Пратаставаці.

Пратэст кідаю з мільёнаў сэрцаў,
Вечна, што церпяць нягоду,
І з тых мільёнаў, што у паняверцы,
З роспачы, енку народу,
Якога мукі я у сэрцы чую,

Дык пратастую!

**Казлоўшчык**

(«Новы Шлях», № 2 ад 25. XII. 1933 г.)

## Францішак Аляхновіч у гасьцях у Саюзе Беларускае Моладзі у Менску

На запросіны старшае праваднічкі д-р Н. Абрамавай Кіраўнічы Штаб СБМ і менскую моладзь наведаў ведамы беларускі драматург Францішак Аляхновіч. Аднэй з мэтаў гэтае візыты было зьбіраньне матар'ялу і уражаньняў для напісаньня п'есы з жыцьця сучаснае моладзі, якую паважаны, сяньня ужо 60-гадовы пісьменьнік дакляраваў напісаць для СБМ.

Пісьменьнік спыніўся у Менску ад 26 да 30 кастрычніка, быў у Кіраўнічым Штабе, дзе глядзеў кіпучую працу у даволі прымітыўных умовах, а вечарам 27 кастрычніка у ягоны гонар быў курсанткамі наладжаны вечар песьні і танцаў, на якім апрача пісьменьніка былі прысутныя: старшыня гораду Менску праф. В. Івраноўскі, рэдактар «Беларускае Газэты» У. Казлоўскі, старшыня Беларускае культурнае Рады сп. А. Калубовіч і паэтка Н. Арсеньнева. Вечар удаўся вельмі добра і усе асталіся шчыра задаволеныя.

Для удзельніцаў курсу у нашым лагеры і для супрацоўнікаў Кіраўнічага Штабу пісьменьнік зрабіў надзвычайна цікавы даклад аб сваіх перажываньнях у часе пабыту на Салоўках. Як ведама, Францішак Аляхновіч зьяўляецца аўтарам цікавых успамінаў «У кіпцюрох ГПУ», публікаваных у «Менскай», а пазьней «Беларускай Газэце» і перакладзеных на некалькі моваў.

Візыта нашага найстарэйшага пісьменьніка у СБМ — вялікі гонар для беларускае моладзі. Тым больш прыемна, што дарагі госьць ад'ехаў з добрымі уражаньнямі. Хочацца, каб прыязьнь паміж нашымі сэньёрамі і намі, моладзьдзю, мацнела і давала вялікую карысьць для беларускае справы. Францішак Аляхновіч даў прыклад зразуменьня парываў моладзі. За ягоную візыту, якая каштавала яго шмат клопатаў і нявыгодаў, з якімі ён, аднак, не палічыўся, мы шчыра, шчыра удзячныя.

**В. Аг.**




Л. Чарняўскі,
зьвязовы

## АГУЛЬНЫЯ УКАЗАНЬНІ ДЛЯ ІНСТРУКТАРА ФІЗЫЧНАГА УЗГАДАВАНЬНЯ

### Уступ

Фізычнае узгадаваньне становіць фундамэнт узгадаваньня і вышкаленьня у юнацкай арганізацыі. Выпрацоўвае у юнакоў здароўе і усебаковую спраўнасьць, а таксама стварае найлепшыя абставіны для выпрацоўкі у юнакоў найлепшых якасьцяў характару, якія павінны быць прыметаю добрага грамадзяніна — беларуса.

Здароўем называем ня толькі адсутнасьць хваробы і недамаганьняў, але таксама здольнасьць да выкананьня працяглых і вялікіх натугаў, пераношаньня розных трудоў і нявыгодаў із захаваньнем пагоды духу і ахвоты. Асновай здароўя зьяўляецца правільная пабудова цела, вытрымалыя лёгкія, моцнае сэрца і суставы, якія могуць выконваць абшырныя і гібкія рухі, а таксама паслушныя нашай волі цягліцы.

Із здароўем сумесна злучаныя пэўныя якасьці цела, якія выяўляюцца у працы, як: сіла, хуткасьць і вытрымаласьць. Гэтыя якасьці называюцца фізычнай спраўнасьцяй, якая дае юнаку магчымасьць здабыць беглясьць у розных галінах ягонага вышкаленьня.

Юнакі — будучыя жаўнеры, ад якіх павінна вымагацца разумнае і дамэтнае дзеяньне у патрэбе. Таму фізычнае узгадаваньне павінна разьвіць у юнаку арыентацыю і хуткасьць выбару спосабу дзеяньня, што разам із фізычнай спраўнасьцю дасьць яму руховую спраўнасьць.

Руховай спраўнасьці нельга разьвіць толькі пры помачы гімнастычных практыкаваньняў, выконваных па загаду і паводля усталеных вузораў. Выпрацаваць яе можна пры помачы спартовых гульняў, якія прымушаюць хутка арыентавацца у вабставінах, пастанаўляць і выконваць адпаведныя рухі.

Фізычныя практыкаваньні выпрацоўваюць у юнакоў паслухмянасьць, якая выяўляецца хуткім выкананьнем руху, паказанага станоўкім спосабам.

Карнасьць або дысцыпліна выпрацоўваецца у спартовых гульнях, дзе усе удзельнікі на сыгнал судзьдзі, хоць-бы найбольш запаленыя гульнёю, мусяць зараз-жа спыніць гульню і бяз гутарак паддацца волі судзьдзі і выканаць яе.

Фізычнае узгадаваньне і спорт выпрацоўваюць амбіцыю, якая застаўляе цярпліва падрыхтоўвацца, дасканаліцца і быць няўступлівым, напружваць усе сілы, каб атрымаць перамогу.

Спаборніцтва, устаноўленае правіламі спорту, наглядам і спартовым сяброўствам, спрычыняецца да таварыскай і грамадзянскай культуры.

Гэта тыя маральныя якасьці, якія па пэўным часе пераходзяць у прывычку, а злучаныя з ініцыятывай і арыентацыяй, даюць трывалы набытак характару юнака.

Пры помачы самых руховых практыкаваньняў і спорту не узгадуем мы юнака і грамадзяніна, сьведамага сваіх абавязкаў, ня выпрацуем у ім якасьцяў будучага жаўнера Беларусі.

Таму фізычнае узгадаваньне мусіць быць цесна зьвязанае з усімі іншымі элемэнтамі узгадаваньня і школеньня.

Інструктар павінен заўсёды: чым спраўнейшы і больш усебакова узгадаваны фізычна будзе юнак, тым лягчэй яму будзе падрыхтавацца да заданьняў, якія чакаюць яго у службе для Бацькаўшчыны.

### 2. Мэты фізычнага узгадаваньня

Фізычнае узгадаваньне у юнацкай арганізацыі павінна мець наступныя мэты:

а) падтрымваньне і павялічэньне здароўя праз супроцьдзеяньне адмоўным уплывам штодзённага жыцьця і уздым натуральнага разьвіцьця юнакоў: загартаваньне іх на труды, нявыгоды і зьменлівыя умовы надвор'я;

б) выпрацоўка і разьвіцьцё руховае спраўнасьці і навучаньне выконваньня рухаў, патрэбных юнаку у жыцьці, а насамперш у войску;

в) выпрацоўка харобрасьці духу праз апрацоўку такіх паняцьцяў як: арыентацыя, яснасьць думак, адвага, вера, імкненьне уперад, ахвота здабыць перамогу, зараднасьць, дысцыпліна і сяброўства;

г) навучаньне сумеснага дзеяньня у грамадзе і навыкі да працы;

д) выпрацоўка любасьці да спартовых заняткаў і запэўненьне юнаком правядзеньня вольнага часу, з карысьцю для здароўя і маральнасьці.

Кіраўнік фізычнага узгадаваньня імкнецца да таго, каб навучыць юнакоў хутка і дакладна выконваць каманды і загады, хутка рухацца, захоўвацца пажаўнерску, маршыраваць бяз змучаньня, бегаць хутка на кароткія адлежнасьці, а вытрывала—на доўгія, і наогул выпрацаваць у юнакох любасьць да спартовых гульняў лёгкай атлетыкі і усіх іншых галінаў спорту.

### 3. Сродкі фізычнага узгадаваньня

Сродкамі фізычнага узгадаваньня у юнацкай арганізацыі зьяўляюцца:

а) Гімнастыка

б) Руховыя гульні

в) Спартовыя гульні: двухстароньні агонь, валейбол, баскетбол, футбол і інш.

г) Лёгкая атлетыка, як: маршыроўкі, бегі (на кароткія і доўгія дыстанцыі), бегі расстаўныя (эстафэты), скокі у даўжыню і вышыню кіданьне гранаты

д) Бокс

е) Плаваньне

ж) Язда на лыжах.

Руховыя і спартовыя гульні і лёгкую атлетыку трэба праводзіць ува усіх дружынах.

Плаваньне павінна праводзіцца там, дзе ёсьць хоць-бы найменшая магчымасьць праводзіць навуку плаваньня. У выпадку, калі няма ніякае магчымасьці, трэба плаваньне праводзіць у часе зборак ці экскурсіяў над вадою.

Гімнастыку трэба праводзіць насамперш там, дзе ёсьць адпаведна падрыхтаваныя інструктары для вядзеньня гімнастыкі. Апрача гімнастыкі трэба старацца, каб у кажнай дружыне праводзілася навука боксу. Аднак навуку гэту можа праводзіць толькі кваліфікаваны інструктар або добры перадавік боксу.

Язда на лыжах павінна праводзіцца абавязкова усюды там, дзе ёсьць хоць якія магчымыя сьнегавыя і тэрэнавыя абставіны.

### 4. Мэтода

Праводжаньне рухавых практыкаваньняў толькі тады дамэтнае, калі:

а) падбор практыкаваньняў і іхная паступовасьць будуць палягаць на дакладнай знаёмасьці фізычных і духовых якасьцяў юнакоў;

б) будуць выконвацца паводля устаноўленых спэцыялістымі праграмаў;

в) практыкаваньні будуць праводзіцца цікава і у добрым настроі, аднак пры вымаганьні дакладнага выкананьня;

г) будуць разьвіваць дух спаборніцтва;

д) будуць праробленыя з захаваньнем указаньняў аб ахове здароўя.

Падбор практыкаваньняў залежыць ад сілы і спраўнасьці юнакоў, што пазнаецца праз лекарскі агляд, спробы фізычнае спраўнасьці і абсэрвацыю падчас заняткаў.

Паступовасьць практыкаваньняў палягае на ужываньні раней простых практыкаваньняў, а па дакладным засваеньні іх, на пераходжаньні да труднейшых і складаных.

Юнакі найчасьцей выказваюць слабыя старонкі спраўнасьці, як недастатковае фізычнае разьвіцьцё або няправільную будову цела, замалую гнуткасьць, спрыт і сілу, слабую волю і недаацэньваньне уласных сілаў. Гэта усё можна вывесьці або часткова зьменшыць праз адпаведныя практыкаваньні.

У руховых практыкаваньнях працуе увесь арганізм чалавека, а насамперш цяглiцы і сэрца. Сэрца дастаўляе цяглiцам пры помачы крыві аджыўчы матар'ял із органаў траўленьня, а із лёгкіх дастаўляе кісларод, які неабходны для выконваньня фізычнае працы. Калі сэрца і лёгкія працуюць няспраўна, тады цяглiцы не затрымваюць патрэбнай ім колькасьці аджыўленьня. Таксама у часе выконваньня празьмерна цяжкое працы нават спраўнае сэрца не пасьпявае падаваць дадатковае колькасьці крыві і тады у цяглiцах паўстаюць забурэньні і няздольнасьць да далейшае працы, што выкажа змучаньне. Таксама і тады забурэньні у цяглiцах паўстаюць, хоць у меншай колькасьці, калі адно практыкаваньне выконваецца даўжэйшы час, хаця-б напружаньне гэтага практыкаваньня было умеранае.

Паступовае павялічэньне вытрываласьці сэрца і лёгкіх дасягаецца праз выконваньне практыкаваньняў штораз труднейшых або праз паступовае павялічэньне колькасьці практыкаваньняў і прадоўжаньне часу выконваньня умераных практыкаваньняў.

Вялічыня напружаньня залежыць ня толькі ад роду практыкаваньняў і ад колькасьці выконваных рухаў, але таксама ад хуткасьці, з якой яны выконваюцца. З гэтага гледзішча трэба таксама павялічваць хуткасьць выконваных практыкаваньняў. Тэмп практыкаваньняў спачатку вольны, а пасьля прысьпяшаецца у меру набываньня спраўнасьці у выконваньні іх юнакамі.

Паняцьце паступовасьці шчыльна зьвязанае з правілам ужываньня адпачынку з мэтай адхіленьня змучаньня.

Найлепшым адпачынкам пасьля цяжкое працы зьяўляюцца практыкаваньні лягчэйшыя, выконваныя мякка і свабодна, якія даюць цяглiцам адпачынак хутчэйшы, чымся перарваньне практыкаваньняў зусім. Таму і праграмы павінны быць так складзеныя, каб спачатку былі лёгкія практыкаваньні, пасьля паступова пераходзілі да практыкаваньняў цяжэйшых, пераплятаных лягчэйшымі, і нарэшце таксама лёгкія.

Правіла даваньня юнаком адпаведнага адпачынку, каб яны заўсёды былі здольныя да заняткаў, павінна быць асноўнай дарогай пры укладаньні праграмы дня, тыдня як курсу, так і лягеру. У праграме дня першая гадзіна заняткаў павінна быць лягчэйшая, наступная цяжэйшая, а апошняя сярэдняга або лёгкага напружаньня. У праграме тыдня, у панядзелак і сыботу трэба праводзіць заняткі лягчэйшыя, а у іншых днях тыдня—цяжэйшыя перамена з сярэднімі. Таксама пачатак і заканчэньне лягеру ці курсу павінны быць лягчэйшыя. Гэтакім спосабам праводжаныя заняткі з групай юнакоў аднолькавае фізычнае спраўнасьці і здароўя дадуць найлепшыя вынікі узгадаваньня.

### 5. Перамучаньні

У групах, няроўных, што да спраўнасьці, дарма што найлепшае вядзеньне заняткаў, можа паўстаць перамучаньне у юнакоў слабых і няспраўных. Перамучаньне гэтае расьце з дня на дзень, хутка або вальней, у меру праводжаньня заняткаў, і таксама залежыць ад меншай або большай няспраўнасьці юнакоў. Таксама і у спраўных юнакоў можа паўстаць перамучаньне, асабліва калі:

а) юнакі церпяць на якія небудзь недамаганьні (нп. боль зубоў, катар носу і г. д.);

б) недасыпаюць, недаядаюць, ужываюць алькагольныя напіткі або кураць тытун;

в) маюць якія-небудзь асабістыя клопаты.

Выкрываньне перамучаньня належыць насамперш да інструктара, які з захоўваньня юнака у часе заняткаў і па-за імі можа заўважыць, хто перамучаны. Дзеля гэтага падаюцца ніжэй азнакі перамучаньня, заўважальныя праз інструктара, якія не вымагаюць ніякіх аглядаў, а толькі нагляду інструктара. Перамучаньні бываюць розныя, але можна падзяліць іх на тры асноўныя этапы:

1. лёгкае перамучаньне,

2. сярэдняе перамучаньне,

3. цяжкое перамучаньне.

Лёгкае перамучаньне выяўляецца насамперш горшым і менш дакладным, спозьненым выкананьнем практыкаваньняў, а апрача гэтага і ахвоты да заняткаў, якія юнак выконваў з ахвотай.

На зьліквідаваньне гэтага перамучаньня, калі яно наступіла у часе колькідзнёвых заняткаў, часта дастаткова аднаго дню адпачынку.

Лёгкае перамучаньне, нязьліквідаванае упору, паступова пераходзіць у перамучаньне сярэдняе ступені, якое звонку выяўляецца паніжэньнем агульнае руховае спраўнасьці, недакладным, няўважлівым выконваньнем практыкаваньняў і павялічаным выдзяленьнем поту. Таксама аб гэтым сьветчыць яшчэ дрэнны выгляд твару юнака, адсутнасьць гумару, расьсеянасьць і нахіл да раздражэньня. Часта зьнікае апэтыт, сон становіцца неспакойны або зьяўляецца бяссонлівасьць, калі-нікалі выступае боль галавы, забурэньні у страўніку (вольнасьці і запор), недамаганьні дыхальных органаў у форме кашлю або катару носа, недамаганьні у працы сэрца у форме прысьпяшэньня пульсу. У выпадку гэткага перамучаньня трэба юнака скіраваць да лекара, а калі няма гэткае магчымасьці, звольніць яго ад заняткаў на 2—3 дні і наогул ад гімнастычных практыкаваньняў.

Пры цяжкім перамучаньні наступае схуданьне (памяншаецца вага юнака), забурэньні страўніка, хутка праяўляецца задышка, пачуцьцё сьцісканьня грудное клеткі, боль у ваколіцы сэрца і у суставах, празьмернае паценьне, чыры (скулы), няздольнасьць і неахвота да заняткаў, бяссонлівасьць, сумны і прыгнечаны настрой. Таксама зварочвае увагу твар з выглядам церпячага і бледная, шэрая скура.

Усе вышэй паказаныя забурэньні вымагаюць ня толькі адпачынку, але і адпаведнага лячэньня праз даўжэйшы час. Бязумоўна, у выпадку цяжкога перамучаньня трэба адразу накіроўваць да лекара.

Выкліканьне зацікаўленьня да заняткаў дасягаецца праз адпаведную разнастайнасьць практыкаваньняў і выясненьне іхнае мэты, а вясёлы настрой — праз бадзёрае і свабоднае праводжаньне заняткаў без перапынкаў і даўжэйшых выясненьняў, аднак з захоўваньнем дысцыпліны, якая палягае на дакладным перасьцераганьні правілаў практыкаваньняў і гульняў.

Сяброўскае спаборніцтва павінна быць выкарыстанае для ажыўленьня працы, прысьпяшэньня поступаў, падняцьця у юнакоў ахвоты здабываць перамогу, а у зборных практыкаваньнях—стварэньне асноваў да супольнага дзеяньня і салідарнасьці. Дасягненьне удачы у спаборніцтве будзе для юнакоў першай узнагародай за укладзеную працу.

(Працяг будзе).

# МАРШ МАЛАДЫХ

Словы А. Чэмера

Муз. М. Іванова.



Бурай рынулася ў бой
Беларуская Пагонь.
Ёй ня страшны, маладой,
Бою жорсткага агонь

Прыпеўка:

Дружны крок, волі гарт
Нас да мэты вядуць.
Хто з народам — наш брат,
З намі шчасьце здабудзь!

Мы, нашчадкі крывічоў,
Чыну воляю гарым.
Шчасьце выкуем мячом,—
Мы жыцьця гаспадары!

Прыпеўка: Дружны крок...

Мы ня знаем перашкод,
Не баімся мы ахвяр
І за вольны свой народ
Жыцьцё зложым на аўтар.

Прыпеўка: Дружны крок...

---

М. Кавыль.

# БЕЛАРУСЬ

Беларусь, мая ты кветка...
Як мне шчыра не кахаць
Жыта буйнае ў палетках
І, як мора, сенажаць;

Сад зялёны каля хаты,
Хлопца з пугай на кані...
Лес задуманы, кашлаты,
І начлежнікаў агні...

На балоце бусла клёкат,
Неба соннае ад хмар...
Жураўліны крык далёкі
І рабінавы пажар...

Сьнег бялюткі, як лілея,
жарт вячорак уначы...
Звон цымбалаў і жалеек,
Сум заручаных дзяўчын...

Усё так родна, блізка, міла,
Сэрца радуе, калі
Нават цёмная магіла
На тваёй сьвятлей зямлі...

Не забыць начлег, палеткі,
Жарт вячорак, сенажаць...
Беларусь, мая ты кветка,
Буду век Цябе кахаць.

1932 г.

# РАЗЬВІТАНЬНЕ

Словы У. Лойко. — Музыка М. Іванова.




Бывай, мой родны кут і зьвяз,
Бывайце вы, лугі і гоні!
Іду ад вас апошні раз
Пад сьцягам слаўнае Пагоні.

За волю ў бой жыцьцё заве
Мяне змагарнае дарогі.
Купальскай кветкі не сарве
Ніхто ў душы мне бяз трывогі.

Я сам пайду за край, народ,
Упорна, з песьняй роднай звонкай,
Пад буру жудкіх непагод,
Мяне што мучаць і старонку.

Мо лягу дзесьці я у далі,
Пад грудзьдзю хмараў неба белым,—
Паўстануць тысячы з зямлі
Пад сьцягам бел-чырвона-белым!

Бывай, мой родны кут і зьвяз,
Бывайце вы, лугі і гоні!
Хай бачу ў лучнасьці я вас
Пад сьцягам слаўнае Пагоні!

---

М. Кавыль.

## СВАЁ

Поле, поле, нівы, сенажаці—
Залаты, бязьмежны акіян...
Ці ня тут заўчора мая маці
Пралівала сьлёзы на бур'ян?
Ці ня тут ад сонца і да зораў
Гнулі сьпіны бацька і браты
І пяялі песьню болі, гора?..
Поле, поле, чуеш? Гэта ты...
Не пазнаць вас нівы, сенажаці—
Залаты, бязьмежны акіян...
Вырывае згорбленая маці
Колькі раз аплаканы бур'ян...
А браты, а бацька, — як асілкі...
На насілкі — цэлыя стагі...
Што да іх калгасныя касілкі—
Як касілкі, рэжуць мурагі...
І чамусьці косьці ня скіголяць...
Б'еца сэрца радасьцю маё:
Бо наўкол раскінулася поле,
Не калгаснае — уласнае, сваё.

1943 г.

М. Кавыль.

## ВАСІЛЁЧКІ

Расьцьвіталі ў жыце васілёчкі,
Васілёчкі ўсюды, дзе ні кінь...
Ой, чаму кароценькія ночкі?
Ой, чаму вялікія дзянькі?
Дзень цалюткі жыцейка я жала:
Мае ножкі, ручанькі баляць...
Ой, чаму ты, ночанька, так мала?
Няма часу з мілым пагуляць.
Вунь ідзе дарожанькай каханы,
Перасталі ножкі, не баляць...
Ня будзі, матуленька, так рана,
Дзень цалюткі спрытна буду жаць.
Расьцьвіталі ў жыце васілёчкі,
Васілёчкі ўсюды, дзе ні кінь...
Ой, чаму кароценькія ночкі?
Ой, чаму вялікія дзянькі?

1943 г.

# Важнейшыя загады і цыркуляры Кіраўнічага Штабу

Загад № 5/43 Шэфа Кіраўнічага Штабу ад 3. VIII. 1943 («Дзёньнік Загадаў» № 2, б. 17) забавязваець усіх уніфармаваных сяброў СБМ аддаваць пашану:

1) усім кіраўнікам і кіраўнічкам СБМ,
2) афіцэрам нямецкай арміі, войскаў СС і беларускіх фармацыяў,
3) сп. Гэнэральнаму Камісару і кіраўніку Аддзелу Моладзі Гэн. Кам. і
4) усім заслужаным беларусам, якія носяць адзнакі заслугі.

Калі прыбывае сп. Гэнэральны Камісар, кіраўнік Аддзелу Моладзі або Шэф Кіраўнічага Штабу СБМ, дык іх вітаюць, становячыся фронтам. Прысутныя адзінкі СБМ (дружыны, грамады, гурткі) строяцца для прывітаньня, а кіраўнік адзінкі складае рапарт.

Загад № 6/43 ад 3. VIII. 1943 («Дзёньнік Загадаў» № 2, б. 17) пастанаўляе, што для зьмены сямейнага стану кіраўнікі і кіраўнічкі СБМ патрабуюць папярэдняе згоды Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ.

Загад № 9/43 ад 13. VIII. 1943 («Дзёньнік Загадаў» № 3, б. 26) трактуець (у выкананьне п. 4 разьдз. I Арганізацыйнага рэгуляміну СБМ) аб наданьні іменьняў для адзінак СБМ:

«1. Імёны грамадам і гурткам даець Акруговы кіраўнік моладзі, мяркуючы так, каб грамады юнакоў мелі імёны слаўных беларускіх князёў, дзяржаўных мужоў, вялікіх нацыянальных герояў, а гурткі юначак—у першую чаргу імёны слаўных беларусак, а таксама вялікіх беларускіх культурнікаў, прыкладам, паэтаў.

2. Пакуль што імёны выбіраюцца з-паміж пададзеных тут 30-ці:

Князь Усяслаў Чарадзей
Княгіня Рагнеда
Прадслава Полацкая (Сьв. Эўфрасіньня)
Князь Альгерд
Князь Вітаўт Вялікі
Францішак Скарына
Канстантын Астрожскі
Лявон Сапега
Сымон Полацкі-Сітняковіч
Кастусь Каліноўскі
Ігнат Грынявіцкі
Ян Чачот
Вінцук Дунін-Марцінкевіч
Францішак Багушэвіч
Іван Луцкевіч
«Наша Ніва»
Алёйза Цётка
Максім Багдановіч
25 сакавіка (1918)
Карусь Каганец
Алесь Гарун
Слуцкія Паўстанцы
Юры Лістапад
Усевалад Ігнатоўскі
Язэп Лёсік
Уладзімер Дубоўка
Уладзімер Жылка
«Узвышша»
Фабіян Акінчыц
22 чырвеня (1941)

3. Шэф Кіраўнічага Штабу СБМ можа даваць адзінкам імёны беларусаў ці беларусак, асабліва памятных для дадзенае ваколіцы.

4. Устрымлівацца трэба ад іменаў асобаў, якія яшчэ жывуць, як і тых, якія зрадзілі Беларускі народ або займаліся шкоднаю для яго дзейнасьцю».

Загад № 23/43 ад 28. XI. 1943 («Дз. Заг. № 7, б. 49) да пададзенага вышэй сьпісу дадаецца імя Уладыслава Казлоўскага.

Паводля загаду № 10/43 ад 15. VIII. 1943 («Дз. Заг.» № 3, б. 27) у справаводзтве СБМ уведзены ад 1. IX. 1943 правапіс А. Лёсіка і усе кіраўнікі і кіраўнічкі СБМ павінны зазнаёміцца з брашураю: А. Лёсік «Беларускі правапіс» Менск 1943.

Сваім цыркулярам 5/43 да усіх акруговых кіраўнікоў моладзі ад 23. VIII. 1943 («Дз. Заг.» № 4, б. 30) Шэф Кіраўнічага Штабу вітаў карысную дзейнасьць Беларускае Самапомачы і пастанавіў, што СБМ будзе падтрымліваць яе усімі даступнымі сродкамі. Усе сябры СБМ у веку ад 16 год заклікаюцца уступіць у шэрагі сяброў ВСП і прыймаць актыўны удзел у ейнай працы. Групаводы і акруговыя кіраўнікі моладзі павінны у сваіх штомесячных справаздачах паказваць вынікі супрацоўніцтва з БСП.

Цыркулярам 11/43 Шэфа Кіраўнічага Штабу да усіх акруговых кіраўнікоў моладзі ад 26. X. 1943 («Дз. Заг.» № 6, б. 39) забароненыя усе шкодныя і абразьлівыя для Беларускага народу песьні і літаратура, упаасобку усе патрыятычныя савецкія і нацыянальныя расейскія і польскія песьні і мэлёды, як: «Інтэрнацыянал», «Сьценька Разін» (Волга Волга), «Мазурка Дамброўскага», «Рота» і інш. Забаронена таксама пець беларускія нацыянальныя песьні на чужыя мэлёды, бо гэта зьяўляецца прыніжэньнем для беларусаў. Забарона не датычыць расейскіх і польскіх народных песьняў, хоць заўсёды перавага павінна аддавацца беларускім песьням і літаратуры.

Загадам № 20/43 ад 3. XI. 1943 («Дз. Заг.» № 6, б. 40) Шэф Кіраўнічага Штабу абвесьціў Супраць-эпідэмічную кампанію СБМ, якая распачалася 14 лістапада 1943. Кіраўніцтва кампаніі даручанае Кіраўнічцы Юначак пры Кіраўнічым Штабе СБМ ст. праваднічцы д-р Н. Абрамавай.

Паводля загаду № 21/43 ад 12. XI. 1943 («Дз. Заг.» № 7, б. 48) усе лягеры і працоўныя каманды беларускае моладзі у Нямеччыне, калі яны уступаюць у СБМ, згуртоўваюцца у Працоўную групу СБМ у Нямеччыне. На чале яе стаіць кіраўнік Працоўнае групы СБМ у Нямеччыне, які зьяўляецца сябрам Кіраўнічага Штабу з правамі кіраўніка аддзелу і мае адміністрацыйныя і каральныя правы Акруговага кіраўніка моладзі. За кіраўніка Працоўнае групы СБМ вызначаны праваднік Гэнрык Барановіч.

Цыркулярам 19/43 да усіх кіраўнікоў адзінак СБМ ад 30. XI. 1943 («Дз. Заг.» № 7, б. 51) Шэф Кіраўнічага Штабу забараніў, бяручы на увагу, што ужываньне тытуну і алькаголевых напіткаў вельмі шкодзіць здароўю і надзвычайна шкодна адбіваецца на маральнасьці, моладзі, якая павінна якраз захаваць сваё здароўе і чысьціню свае душы для свайго народу, — усім сяброўкам і сябром СБМ да 18 год ужываць тытун і алькаголь, а таксама загадаў правесьці ува усіх адзінках кампанію абстынэнцыі. У часе службы і зборак таксама і кіраўніком забараняецца курэньне. За нявыкананьне гэтае забароны або зьяўленьне на службу у нятрэзвым стане вінаватыя будуць прыцягнутыя да суровае адказнасьці.

# Гаўптбанфюрэр Нікэль у Менску

Ад 28 кастрычніка да 2 лістапада 1943 г. у Менску гасьціў кіраўнік Аддзелу Моладзі Міністэрства Усходу гаўптбанфюрэр Нікэль. Для кіраўнікоў СБМ гэта дало нагоду абгаварыць актуальныя пытаньні з аўтарытэтным бэрлінскім прадстаўніком і мець добрую надзею, што СБМ, як і дагэтуль, будзе і надалей мець дапамогу з боку кіраўнікоў Моладзі Гітлера.

28 кастрычніка гаўптбанфюрэр быў прысутны на заканчэньні першага сельскагаспадарскага курсу юначак у Драздох. Яго суправаджаў банфюрэр Шульц, кіраўнік Аддзелу Моладзі Гэнэральнага Камісарыяту, а таксама кіраўнікі Саюзу Беларускае Моладзі. Праграма сьвята была вельмі цікавая. Было шмат жніўных і дажынкавых сьпеваў, шмат танцаў і жартаў, якія вельмі спадабаліся нямецкім госьцям. Гаўптбанфюрэр сказаў доўгую прамову да юначак, у якой выясьняў розьніцу паміж савецкім і новым узгадаваньнем юначак і гаварыў аб цяперашніх заданьнях і ролі беларускіх юначак.

**В. Аг.**

# ІНСПЭКЦЫЙНАЕ ПАДАРОЖЖА ШЭФА КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ 5—26.XI. 1943

Ад 5 да 26 лістапада 1943 шэф-праваднік М. Ганько адбыў трохтыднёвае інспэкцыйнае падарожжа па паўночна-заходніх акругах Беларусі. Ён чаргова спыняўся у Глыбокім, Вялейцы, Вільні, Лідзе, Наваградку і Маладэчне. Суправаджаў яго ягоны ад'ютант падправаднік У. Гарэлік.

## ГЛЫБОКАЕ

Распачынаючы сваё інспэкцыйнае падарожжа, шэф-праваднік спыніўся ад 6 да 9 лістапада у Глыбокім.

7 лістапада ён спаткаўся з моладзьдзю Глыбоцкае прагімназіі, зьвярнуўся да яе з сваім прывітальным словам і з захапленьнем слухаў ейныя пасьні і глядзеў танцы.

А г. 13[00] адбылася жалобная урачыстасьць пахаваньня гэраічна загінутага у змаганьні са сталінскімі бандытамі дружыновага Уладзімера Жызьнеўскага, які аддаў сваё 20-гадовае жыцьцё за Бацькаўшчыну. У паховінах прынялі удзел прадстаўнікі мяйсцовых нямецкіх уладаў, дружына беларускага СС і каля 250 юначак і юнакоў ува уніформах. Урачыстасьць сьцягнула каля паўтары тысячы мяйсцовага беларускага жыхарства, так што паховіны юнака пертварыліся у грамадную дэманстрацыю, якая, супаўшы з угодкамі бальшавіцкае кастрычніцкае рэвалюцыі, была грандыёзным адказам беларусаў Глыбоччыны на бандыцкі тэрор і жыда-бальшавіцкую, хлусьлівую прапаганду.

— Жыве Беларусь! — быў гэты адказ, — бо ейная моладзь умее гэраічна змагацца і, калі трэба, — паміраць за Бацькаўшчыну.

Пасьля паніхіды у царкве, дзе жаўнеры СС і узброеная дружына юнакоў трымалі ганаровую варту, двухтысячны кандукт рушыў на могільнік. На чале — глыбоцкія адзінкі СБМ пад сваім сьцягам.

Пасьля рэлігійнага абраду над дамавінаю, з нябожчыкам разьвіталіся: прадстаўнік сп. Акруговага камісара, кіраўнік школьніцтва і арганізатар юнацкае самааховы сп. Вітвіцкі, Акруговы кіраўнік моладзі падправаднік А. Мацюшонак і лейтэнант беларускага СС Мялешка.

Шэф-праваднік сказаў кароткую прамову:

— Дарагі сябра Уладзімер і вы усе, сабраныя над ягонаю магілай! Жаль нам Цябе і Твайго маладога жыцьця. Жаль нам, але мы ганарымся. Жыцьцё сваё Ты аддаў для Бацькаўшчыны, памятаючы на сваё юнацкае забавязаньне: Любі свой народ і родны край над усё на сьвеце і цэлае жыцьцё сваё ахвяруй на службу для ягонага шчасьця і дабрабыту.

Твая ахвярная сьмерць прывяла нас сюды сяньня, калі Твае забойцы сьвяткуюць сваё бандыцкае сьвята. Але гэтая Твая сьвежая магіла зьяўляецца сымбалем і зарукаю таго, што яны сьвяткуюць у апошні раз, што ня нас, а іх чакае магіла, што будзе жыць Беларусь.

Ты, сябра Уладзімер, выканаў свой абавязак, бо так загадвае юнацкі запавет: Помні, што шчасьце, гонар і слава Бацькаўшчыны вышэй і даражэй за жыцьцё і дабрабыт адзінкі. Ты памёр, але не загінуў дарма — Ты будзеш жыць, як вечны сымбаль, у нашых юнацкіх сэрцах: хто памірае для Бацькаўшчыны, той вечна жывець у народзе!

Хай-жа лёгкай Табе будзе родная беларуская зямелька, а над Тваёю магілаю вечную варту будзе несьці Саюз Беларускае Моладзі! —

Словамі: «Дружыновы Уладзімер Жызьнеўскі аддаў жыцьцё для Бацькаўшчыны і будзе вечна жыць між нас» шэф-праваднік закончыў жалобны абрад. На магіле, насыпанай рукамі сяброў, закрасавалі вянкі, зяленіва і краскі. Журботны, але спакойны лістападавы змрок акутаў ціхшынёю магілу гэроя.

## ВІЛЬНЯ

Ад 11 да 14 лістапада шэф-праваднік быў у Вільні, каб зазнаёміцца з беларускай калёніяй, беларускімі установамі і беларускімі школамі.

Віленяне сустрэлі яго вельмі гасьцінна. Пасьля афіцыйнае візыты да Камісара гораду сп. Гінгста, шэф-праваднік затрымаўся у Беларускім Прадстаўніцтве (БНК), наведаў рэдакцыю «Беларускага Голасу» і Музэй ім. Івана Луцкевіча, а пазьней зазнаёміўся з дырэкцыяй і настаўнікамі Беларускае Гімназіі, дзе прысутнічаў на цікавай лекцыі гісторыі ведамага беларускага дзеяча кс. Адама Станкевіча у VII клясе і шчыра цешыўся з бойкіх адказаў вучняў на пытаньні свайго настаўніка.

Наступнага дня настаўнікі і моладзь абедзьвюх віленскіх сярэдніх школаў (гімназіі і настаўніцкае сэмінарыі) сабраліся у вялікай гімнастычнай залі гімназіі, каб прывітаць шэфа-праваднніка і паслухаць ягоны даклад на тэму: «Мэта і заданьні Саюзу Беларускае Моладзі». На дакладзе быў таксама прысутны праваднік Г. Барановіч, кіраўнік Працоўнае Групы СБМ у Нямеччыне і супрацоўнік Міністэрства Усходу.

Ад імя віленскіх беларусаў шэфа-праваднніка вітаў дырэктар гімназіі сп. д-р Ф. Грышкевіч.

— Беларуская Вільня умее расцэньваць падзеі і факты, бо яна мае ць у сабе нешта з Антэя і Мэфістофэля. І гэтым разам мы думаем, што правільна расцэньваем важны факт арганізацыі беларускае моладзі. Вас, вельмі паважаны сп. Ганько, мы шчыра вітаем у старых мурох Вільні, як энэргічнага шэфа СБМ, які ужо сяньня, дарма што цяжкі час, мае больш за 5 тыс. арганізаванае моладзі. Мы цэнім гэтую працу, бо у арганізацыі выяўляецца сіла Беларускага народу!

Даклад шэфа-праваднніка, які гаварыў аб выніках пяцёх месяцаў працы СБМ у Гэнэральнай Акрузе Беларусі, аб агульным палітычным становішчы і аб чарговых заданьнях беларускага актыву, быў цёпла сустрэнуты моладзьдзю, якая на заканчэньне свайго спатканьня з шэфам-праваднніком адсьпявала беларускі нацыянальны гімн і прасіла паклапаціцца аб пашырэньні СБМ на Вільню.

13 лістапада шэф-праваднік аглядаў Вільню, з якой яго вяжуць асабістыя успаміны студэнцкіх гадоў, каб назаўтра ад'ехаць у Ліду.

## ЛІДА

Ад 14 да 16 лістапада 1943 г. шэф-праваднік наведаў горад Ліду, каб зазнаёміцца з жыцьцём і працай беларускае моладзі, а таксама з мяйсцовым беларускім актывам.

Хоць агульна думаюць, што беларускае жыцьцё у Лідчыне знаходзіцца у вялікім заганe і што яно вельмі слабенькае, але выяўляецца якраз адваротнае. Ліда пачынае жыць моцным і здаровым беларускім жыцьцём. Відаць вынікі вялікіх намаганьняў старшыні павету і гораду Ліды сп. М. Яцкевіча і ягонага сталага заступніка сп. Я. Пінкевіча. Іхная дзейнасьць заклала добры фундамэнт пад нацыянальную адбудову Лідчыны. Сяньня прыемна апынуцца у гарадзкой управе, бо там чуваць беларуская мова і энэргічны голас старшыні.

15 лістапада шэфа-праваднніка віталі юначкі г. Ліды. Яны паказалі яму свае прыгожыя танцы, дэклямацыі і сьпевы. На сяброўскім вечары быў прысутны Акруговы камісар сп. Ганвэг, які заўсёды цікавіцца беларускай моладзьдзю і дапамагае ць ёй. Шэф-праваднік быў вельмі усьцешаны усім, што ён бачыў, і зьвярнуўся да юначак з сваім словам. Ён выказаў сваё задаволеньне іхнаю працай і надзею на добры вынік, і заклікаў любіць усё беларускае і не сароміцца ні сваёй юнацкай уніформы, ні прывітаньня «Жыве Беларусь!», ні свае роднае беларускае мовы, ды абяцаў сваю заўсёдную увагу і дапамогу.

Пасьля абеду шэф-праваднік і сп. Акруговы камісар наведалі юнацкі лягер аднаго прадпрыемства. Наўзорная чысьціня і парадак, добрае абсталяваньне і добрыя умовы жыцьця юнакоў — вось што кінулася там у вочы. У лягеры навучаецца 250 юнакоў. Усе яны — бадзёрыя вясёлыя.

Прывітаўшыся з юнакамі, шэф-праваднк заклікаў іх пільна вучыцца і помніць заўсёды, што яны — беларускія юнакі і носяць уніформу СБМ. Яны вучацца, каб адбудоўваць Бацькаўшчыну.

З найлепшымі ўражаньнямі шэф-праваднік пакінуў Ліду, спадзяючыся пабачыць яе пры сваім наступным падарожжы яшчэ больш беларускай, а Саюз Беларускае Моладзі — больш моцным і згуртаваным.

## НАВАГРАДАК

Заканчваючы сваё інспэкцыйнае падарожжа, шэф-праваднік гасьціў ад 16 да 21 лістапада 1943 г. у Наваградку.

Хоць сам Наваградак цяпер моцна зруйнаваны (у ім засталося усяго каля 7 — 8 тыс. жыхарства), але можа ганарыцца сваёй слаўнай мінуўшчынай, сьветкай якое зьяўляецца замчышча з часоў Міндаўга і стары касьцёл-фара, — а мо' яшчэ больш тым, што яго нездарма называюць «сэрцам Беларусі». Тут пульсуе беларускае жыцьцё, працуе шмат беларускіх грамадзкіх і культурных сілаў, а між іх перадавыя лініі займае моладзь.

17 лістапада моладзь Наваградзкае прагімназіі і настаўніцкае сэмінарыі вітала шэфа-праваднікa у мурох нарсдпае школы. Як-жа міла было слухаць сьвежыя юнацкія песьні (найбольш кампазыцыі М. Іванова) у выкананьні мужчынскага і жаноцкага ансамблю і хору настаўніцкае сэмінарыі, а таксама і маладых салістых! Відаць было і агністы запал самое моладзі, і настойлівую і умецкую працу настаўнікаў і кіраўнікоў.

Дзякуючы за гэткае мілае і прыгожае спатканьне, шэф-праваднік выказаў Наваградзкай моладзі сваё прызнаньне і высака ацаніў працу кіраўнікоў СБМ: інспэктара Кіраўнічага Штабу падправадніка Б. Рагулі. Акруговага кіраўніка моладзі падправадніка Я. Жаймоціна і Акруговае кіраўнічкі юначак важатай Л. Гутар. СБМ — вялікая нацыянальная школа беларускае моладзі. Праз беларускія сьпевы і танцы нашая моладзь пракладае шлях да пазнаньня свайго народу. Але сябры СБМ вучацца не адных толькі сьпеваў і танцаў — яны вучацца працаваць для Бацькаўшчыны, а у выпадку патрэбы — і змагацца за яе.

Наступнага дня шэф-праваднік наведаў страявыя заняткі юнакоў у сэмінарыі. Магутная калёна 200 юнакоў напоўніла сваймі галасамі усю ваколіцу Замкавае гары, а бадзёрыя юнацкія песьні рэхам адбіваліся аб гістарычныя руіны замшчышча. Якая вялікая сымболіка: маладое беларускае пакаленьне юнакоў-арлянятаў узгадоўваецца пад знакам крывіцкае Пагоні, каб адбудоўваць і бараніць Беларусь і нашую слаўную нацыянальную традыцыю.

Асабісты кантакт са старэйшым беларускім грамадзянствам пераканаў шэфа-праваднікa у тым, што моладзь мае у Наваградку добрую і моцную апеку з боку старэйшых. Жывое зацікаўленьне моладзяй і СБМ выяўляюць і старшыня павету і гораду Наваградка сп. Буляк, і Акруговы школьны інспэктар сп. Орса, і Акруговы старшыня БСП сп. Якуцэвіч.

З мілым пачуцьцём радасьці з перажытых хвілін шэф-праваднік разьвітаўся з Наваградкам, моцным асяродкам беларускасьці, абяцаючы наведаць яго зноў пры адпаведнай нагодзе.

Агульна бяручы, інспэкцыйнае падарожжа дало шмат карысных назіраньняў, якія будуць выкарыстаныя у далейшай працы Кіраўнічага Штабу СБМ. Яно таксама паслужыла для навязаньня сьціслага кантакту паміж беларускай моладзьдзю і ейным шэфам, ды паміж беларускай моладзьдзю, ейным кіраўніцтвам і старэйшым грамадзянствам. Гэта павінна даць вялікую карысьць усёй беларускай справе.

В. Аг.

## ІНСПЭКЦЫЯ ШЭФА КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ У БАРАНАВІЧАХ



21 кастрычніка 1943 шэф-праваднік М. Ганько ужо другі раз наведаў г. Баранавічы і быў міла сустрэнуты Акруговым кіраўніком моладзі падправадніком Ф. Шпакам.

Шэф-праваднік зазнаёміўся з моладзьдзю, з памешканьнем, дзе праводзяцца зборкі СБМ, з галоўнымі беларускімі установамі і школамі. Зараз-жа першага дня ён быў на зборцы дружыновых гораду і прамаўляў да іх, заклікаючы перамагаць усе перашкоды.

На другі дзень шэф-праваднік зрабіў некалькі візытаў да старэйшых беларускіх мужоў, насамперш да Акруговага школьнага інспэктара сп. Міхайлоўскага, старшыні г. Баранавіч сп. Русака, старшыні БСП Баранавіцкай акругі сп. Тулейкі і інш. Вечарам шэф-праваднік быў на зборцы юна-



чак і шчыра цешыўся з іхнай энэргіі і ахвоты да працы.

Наступнага дня шэф-праваднік наведаў гандлёвую сярэднюю школу і у кароткай прамове да моладзі выказаў, што першы крок арганізацыі моладзі, хоць быў цяжкі, але ужо зроблены і паказвае добрыя вынікі, а яшчэ большая надзея на тое, што яшчэ лепш пойдзе праца у будучыні, што ніякія варожыя бальшавіцкія і польскія правакатарскія сілы ня спыняць нашага юнацкага маршу да Новае Беларусі.

24 кастрычніка шэф-праваднік і сп. Акруговы камісар Вэрнэр зрабілі агляд юнакоў і юначак гораду на Паліцыйным пляцы. 400 юнацкіх галасоў адказвалі магутным «Жыве!», калі шэф-праваднік вітаў іх гарачай прамовай і уручаў першай штандаровай дружыне юнацкі сьцяг. Ён вітаў моладзь ад імя Кіраўнічага Штабу і моладзі г. Менску і заклікаў яшчэ больш згуртавацца у ваднэй сяброўскай беларускай сям'і, нясучы цьвёрда і упэўнена свой толькі-што уручаны штандар.

Пасьля агляду моладзь г. Баранавіч, ушыхтаваная у маршавую калёну, перайшла пад гукі паліцыйнай духавой аркестры галоўнымі вуліцамі гораду, паказваючы сваю гатоўнасьць стаць у рады змагароў за сваю Бацькаўшчыну.

Пасьля сканчэньня параду і паказу мастацкае самадзейнасьці у гарадзкім парку, шэф-праваднік разьвітаўся з сп. Акруговым камісарам і старэйшымі прадстаўнікамі беларускага грамадзянства і ад'ехаў у Менск.

**Ф. Ш.**



## Сэмінар вышэйшых кіраўнічак СБМ у Менску

Ад 14 да 21 лістапада 1943 г. у Менску быў праведзены сэмінар для акруговых кіраўнічак юначак, іхных заступніцаў ды кіраўнічак спорту і культурнае працы у вакругах. На сэмінары было 19 асоб. На чале курсу стаяла Акруговая кіраўнічка юначак у Лідзе важатая Ганна Хоміч, а штодня ейнай памочніцай дзеля плянаваньня лагернага жыцьця выступала па чарзе новая кіраўнічка. Гэтак яны маглі выявіць свае арганізацыйныя здольнасьці, якія зьяўляюцца умовай працы кажнае кіраўнічкі.

Кіраўнічкі праслухалі цыкль лекцыяў беларускіх спэцыялістых, якія ня чыталіся на першым курсе у Альбэртыне, адкуль акруговыя кіраўнічкі атрымалі свае прызначэньні.

Шмат увагі было аддадзена пытаньням арганізацыі і плянаваньня працы. Кажная акруговая кіраўнічка юначак рабіла даклад для юначак на прадпрыемствах і у школах гораду (радыёзавод, табачная фабрыка, мэдыцынская школа, прагімназія, настаўніцкая сэмінарыя і г. д.). Штодня праводзіліся «вячоркі» — дзявочыя зборкі, да якіх распрацоўвалася пэўная тэма і падбіраўся адпаведны матар'ял.

Кіраўнічкі наведалі лагер Дразды, дзе пазнаёміліся з рознымі родамі ручное працы, як цацкі з дрэва, саломы, гліны, бульбы і г. д.

На заканчэньне курсу адбыўся г. зв. «Вянок» — рабочая зборка кіраўнічак. На чале з кіраўнічкай юначак пры Кіраўнічым Штабе СБМ д-р Н. Абрамавай быў распрацаваны дакладны плян працы юначак аж да 1 студзеня 1944 г. Бралася на увагу, што праца юначак павінна ісьці на актуальныя патрэбы сучаснае хвіліны: змаганьне супроць адзінага ворага — бальшавізму і усямерная дапамога народу.

Поўныя энэргіі і бадзёрасьці, кіраўнічкі разьехаліся у свае акругі з моцным жаданьнем аддаць усе сілы сваёй Бацькаўшчыне.

**Н. А.**

# ЗЬМЕСТ



**„Žyvie Biełaruś!"** Weißruthenische Jugendführer-Zeitschrift. Erscheint einmal oder zweimal monatlich.

**Herausgeber:** M. Hanjko, Chef des Führungsstabes des Weißruthenischen Jugendwerkes.

**Schriftleitung:** Wladimir Kuschell.

**Verlag:** Presseverlag Minsk G.m.b.H.

**Druck:** Minsker Verlags- und Druckerei G.m.b.H.

**«Жыве Беларусь!»** Часапіс для кіраўнікоў моладзі. Выходзіць раз або два разы на месяц.

**Выдавец:** М. Ганько, Шэф Кіраўнічага Штабу саюзу Беларускае Моладзі.

**Рэдакцыя:** Уладзімер Кушэль.

**Выдавецтва:** Прэсавае Выдавецтва, Менск Тав. з абм. адк.

**Друкарня:** Менскае Выдавецкае і Друкарскае Таварыства з абм. адк.